№ 42 (783) 14 лістапада 2012

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

П е р ш а я   б е л а р у с к а я   г а з е т а

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у с

## Мільянер Хусаенаў

«Мой сын-лінгвіст лічыць мяне прымітыўным чалавекам». Старонка 5.



## Віктар Марціновіч

«Мужчына павінен час ад часу мыцца і галіцца». Старонка 9.



# Нашто ЦРУ наваполацкі слесар?

Па падазрэнні ў **«здрадзе дзяржаве»** затрыманы слесар «Нафтана» Андрэй Гайдукоў. **Старонка 4.**



Тэндэнцыі

## Каля будынка КДБ у Віцебску ўзарвалі бомбу

**Дзіўны ланцуг** здарэнняў.

**5 лістапада** на беларуска-польскай мяжы адбыўся выбух. **6 лістапада** невядомыя кінулі «кактэйль Молатава» ў літоўскае пасольства ў цэнтры Мінска. **8 лістапада** ў Полацку й Віцебску затрымалі двух маладых рабочых, аднаго з іх абвінавацілі ў здрадзе дзяржаве. **9 лістапада** было абвешчана пра вызваленне ад пасады кіраўніка КДБ генерала Зайцава. Яго абавязкі паставілі выконваць не намесніка з КДБ, а кіраўніка Рады Бяспекі, а адстаўку звязалі са смерцю падпалкоўніка КДБ Казака — смерцю, якую Камітэт доўгі час адмаўляў, нібы тых мядзведзікаў. А **11 лістапада** ў Віцебску каля КДБ адбываецца выбух «самаробнага піратэхнічнага прыстасавання», у выніку якога пашкоджаны два акны. Між тым ад **12 лістапада** ў краіне ўступаюць у сілу дапаўненні ў законы аб барацьбе з тэрарызмам і супрацьдзеянні экстрэмізму.

Ну і абстановачка ў нас у стабільнай Беларусі!

Пра віцебскі выбух вядома, што ён быў зусім не моцным, але пацягнуў за сабой шматлікія затрыманні ў горадзе. Мяркуючы па інфармацыі некаторых затрыманых, бралі хлопцаў у чорных куртках з капюшонам. Большасць з іх адпусцілі.

**Працяг на старонцы 4.**

Палітыка

### Старшыню КДБ адхілілі, але могуць вярнуць

Пяць фактаў пра Вадзіма Зайцава. **Старонка 3.**



Гутарка

### «Я думала, што гэта ніколі не скончыцца»

Інтэрв'ю з дырэктаркай «Белсата». **Старонка 7.**



Культура

### Алейнікаў ставіў мюзіклы ў Мінску

У галоўнай ролі быў Вайцюшкевіч. Памёр вядучы «Гарадка». **Старонка 8.**



Крымінал

### Данькова не верыць, што муж пакрываў прастытуцыю

Цяпер рыхтуюцца забраць бізнэс. **Старонка 10.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Валер Булгакаў выехаў з Беларусі



Так былы галоўны рэдактар часопіса Arche адрэагаваў на справу, якую вядзе Дэпартамент фінансавых расследаванняў. «Гэта быў занадта вялікі псіхалагічны ціск для мяне. Я часова вырашыў ад'ехаць», —- сказаў ён.

Як можна меркаваць, пытанні да Булгакава выкліканыя не ўласна часопісам, а кнігамі. А менавіта выданнямі палітычнага характару, што распаўсюджваліся ў Беларусі ў апошні час. Спецслужбы сканфіскавалі больш за 5000 асобнікаў кніг, што выйшлі пад рэдакцыяй Булгакава. Пераважна гэта слоўнікі, гістарычныя і літаратуразнаўчыя выданні. Аднак сярод іх ёсць паліталагічныя тамы — яны, здаецца, і выклікалі агонь.

Стралялі ў палітыку, а папалі ў культуру. Справа Булгакава паставіла пад пагрозу сам выхад Arche. Дэпартамент фінансавых расследаванняў заблакаваў рахунак выдання.

18 кастрычніка гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці аштрафаваў Булгакава паводле абвінавачання ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці — за продаж кніг і часопіса. Штраф склаў пяць базавых велічынь, або пяцьсот тысяч рублёў.

Беларускае тэлебачанне прысвяціла гэтай справе два сюжэты. «Сумнеўная літаратура з прэтэнзіяй на экстрэмізм» — так ахарактарызаваў выданні часопіса Arche журналіст Аляксандр Вярбіцкі.

Атакі на Arche выклікалі абурэнне чытачоў у інтэрнэце. Людзі бачаць за ўсім гэтым спробу задушыць яшчэ адно з нешматлікіх выданняў на беларускай мове, прычым высокаінтэлектуальнае. Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікала да кампаніі салідарнасці. Публікацыі ў абарону Arche з'явіліся ў шматлікіх інтэлектуальных выданнях Еўропы, уплывовая нямецкая газета «Франкфуртэр альгемайнэ цайтунг» прысвяціла справе каментар.

У Мінску ў Булгакава застаюцца жонка і двое малых дзяцей.

**Ул.інф.**

## Абама перамог. ЗША чакаюць самыя цяжкія гады?

За дзейнага прэзідэнта Абаму прагаласавала каля 50% выбарцаў, а за ягонага суперніка Міта Ромні з Рэспубліканскай партыі — каля 48%. Але галасы ў Амерыцы лічацца не агулам, а асобна па штатах — праява федэралізму. Падлік галасоў на выбарах прэзідэнта ў большасці штатаў адбываецца па прынцыпе winner takes all, пераможца атрымлівае ўсе галасы гэтага штата.

Абаму ўдалося перамагчы ў большасці штатаў, тым самым забяспечыўшы сабе пераабранне на пасаду прэзідэнта.

Упершыню ад 1816 года ў Амерыцы тры прэзідэнты запар выйгравалі па два тэрміны запар: Клінтан, Буш і цяпер Абама.

За ліберала Абаму галасавалі 55% жанчын, 60% маладых выбарцаў да 30 гадоў, 69% іспанскамоўных амерыканцаў, 93% чарнаскурых. За кансерватара Ромні галасавала 58% белых, большасць мужчын і выбарцаў сталага веку.

Выбары скончыліся, цяпер пачынаюцца праблемы. Па-першае, ЗША вычарпалі ўстаноўлены Кангрэсам ліміт выдаткаў. Цяпер, згодна з амерыканскім законам, дзяржаўныя расходы будуць абрэзаныя на 600 мільярдаў даляраў. Гэта каласальная сума, якая роўная дваццаці гадавым ВУП або сарака гадавым бюджэтам Беларусі. Амерыканская дзяржава аўтаматычна стане менш траціць, а грамадзяне — плаціць новыя падаткі. Гэта прывядзе да скарачэння эканомікі, а яно —- да зніжэння цэнаў на энерганосьбіты.

З другога боку, Еўропа. Там таксама некаторыя краіны жылі не па сродках. Нягледзячы на дапамогу Грэцыі, ёй па-ранейшаму пагражае дэфолт, а з ім — непрадказальны сцэнар для еўра.

З трэцяга боку, Кітай, які вычэрпвае запас росту з нізкага старту і дзе гэтымі днямі таксама памянялася кіраўніцтва — там, праўда, без выбараў і без запыту волі народу, рашэннем вузкага кола эліты.

Наступныя паўгода будуць нервовымі для ўсяго свету.

**Мікола Бугай**

## Марат Башараў атрымаў за «Лістапад» 17 тысяч еўра?

Карэспандэнт АНТ Аляксандр Мацяс расказаў беларускім гледачам, што расійскі акцёр Марат Башараў, які быў адным з пятнаццаці (!) вядучых цырымоніі закрыцця «Лістапада», атрымаў за свой выхад на сцэну Малой залы Палаца Рэспублікі ганарар у памеры 17 тысяч еўра, гэта значыць 22 тысяч даляраў, ці то 187,000,000 беларускіх рублёў.

Дарэчы, Башараў быў не адзіным «раялем ў кустах» на фестывалі. Не менш дарагі Дзмітрый Харацьян нават праспяваў са сцэны Палаца Рэспублікі. Дый п'яны Гоша Куцэнка, чый здымачны дзень ацэньваецца ў 15 тысяч небеларускіх рублёў, таксама разбіў непатрабавальную айчынную публіку сваім вакалам, піша «Обозреватель».

Праўда, потым і дырэкцыя «Лістапада» і агент Башарава заявілі, што сума яўна завышаная. Маўляў, Башараў не толькі на «Лістапад» прыязджаў, але і ў якасці вядучага на баль у Нясвіж. Праўда, сапраўдную суму ганарара так і не назвалі.

**Фотафакт**



**У выніку праліўных дажджоў тэрыторыя Венецыі на 70% сышла пад ваду.**



### Сцісла

**Беларусь пазычыла яшчэ $110 мільёнаў**

Грошы ўзятыя на 3,5 года пад вельмі высокія 7,5% гадавых. Аблігацыі набылі страхавая кампанія і камерцыйны банк.

**Лукашэнка: Нашто ўтрымліваць старыя ўзбраенні?**

«Мы ведаем, якія гарнізоны і часці нам будуць патрэбны, і мы там павінны навесці добры парадак па захоўванні тэхнікі, па расквартараванні асабовага складу і гэтак далей», — сказаў Лукашэнка, прымаючы міністра абароны Юрыя Жадобіна. А вось ад састарэлых узбраенняў хочуць адмовіцца: у сучасных войнах яны не выкарыстоўваюцца.

**Porsche насмерць збіў 9-гадовага хлопчыка**

Гэта адбылося 13 лістапада на тэрыторыі сталічнай школы № 23 у мікраранёне Сухарава. За рулём Porsche Cayenne быў 37-гадовы мужчына, жыхар аднаго з суседніх дамоў.

**Каўказец ішоў у Нямеччыну і заблукаў у Беларусі**

Яго затрымаў на мяжы нарад Лідскага памежатрада. Уначы ён перасёк мяжу, але страціў арыенціроўку і вярнуўся ў Беларусь. Тут яго і злавілі.

**Успышка грыпу прагназуецца ў студзені-лютым**

На пачатак лістапада ў Беларусі прышчэпкі ад грыпу зрабілі амаль 3 млн 36 тыс. чалавек, або 31,7% ад усёй колькасці насельніцтва.

**Чыжоўскі рынак і хлебазавод №1 выставілі на продаж**

Пачатковая цана продажу Чыжоўскага рынку складае больш за 8,8 млрд рублёў. Хлебазавод №1 Мінска прадаецца за 125,6 млрд.

**У Аўстрыі адчыняць найбуйнейшы бардэль у Еўропе**

Установа пад працоўнай назвай FunMotel зможа прыняць да тысячы наведнікаў у дзень.

**ЗП**

### Самае чытанае на nn.by за 7 — 13 лістапада — РУБР

1. Станцыя метро «Пятроўшчына»: адкрыццё не для ўсіх
2. Пяць фактаў пра генерал-лейтэнанта Вадзіма Зайцава
3. Каля будынка КДБ у Віцебску ўзарвалі бомбу, затрыманыя трое
4. Што можа азначаць звальненне старшыні КДБ
5. На станцыі метро «Маладзёжная» невядомы душыў дзяўчыну, міліцыя шукае злачынцу
6. Расцэнкі мінскай прастытуткі: 40-70 даляраў за гадзіну, міліцыя актывізуе барацьбу
7. На ўскладанне кветак Леніну сагналі школьнікаў і студэнтаў
8. Суровы Лукашэнка глядзіць на Ладуцьку ў метро — фотафакт
9. Школьнікі, сагнаныя на 7 Лістапада, не ведалі, што святкуюць — відэафакт
10. Першы дзень новых станцый метро — фотарэпартаж Сяргея Гудзіліна

# Старшыню КДБ звольнілі праз самагубства Казака

Будзе расследаванне, але Зайцаў **можа вярнуцца**.



**Вадзім Зайцаў**

Нарадзіўся ў 1964 у Жытомірскай вобласці (Украіна). Скончыў Маскоўскую вышэйшую памежную камандную вучэльню КДБ СССР, Акадэмію Фэдэральнай памежслужбы Расіі, Вайсковую акадэмію Генштаба Узброеных сілаў РФ.

PHOTO.BYMEDIA.NET

> « Адхіленне Зайцава ініцыявалі Канюк і Вакульчык

9 лістапада Аляксандр Лукашэнка падчас нарады выклікаў генерал-лейтэнанта Вадзіма Зайцава ад пасады старшыні КДБ.

Цікава, што пытанні перад старшынёй КДБ ставілі генеральны пракурор Аляксандр Канюк і старшыня Следчага камітэта Валерый Вакульчык (раней гаварылася, што Вакульчык блізкі чалавек да Зайцава і Віктара Лукашэнкі). У прыватнасці, яны паднялі тэму нядаўняга самагубства падпалкоўніка КДБ Аляксандра Казака.

«Ёсць і шэраг іншых пытанняў, якія патрабуюць ўважлівага расследавання», — перадае БелТА словы дзяржсакратара Рады бяспекі Леаніда Мальцава. Што за яны, тлумачэнняў не было.

Дарэчы, менавіта Мальцаў цяпер будзе выконваць абавязкі старшыні КДБ. Некалі Лукашэнка гэтак сама ганебна звальняў і самога Мальцава з пасады міністра абароны. Праўда, потым прабачыў і зноў паставіў кіраваць вайскоўцамі. Ён з'яўляецца ці не апошнім сілавіком, якога не звязваюць з імем Віктара Лукашэнкі. Сам Мальцаў у разборкі паміж ведамствамі не ўлазіў.

Зайцава адставілі, «але гэта не значыць, што пасля завяршэння расследавання не можа вярнуцца на ранейшую пасаду, — адзначыў Мальцаў. — Калі расследаванне пакажа кампетэнтнасць яго і іншых службовых асоб, то паза ўсялякімі сумневамі ён будзе вернуты на гэтую пасаду. Гэта зроблена для таго, каб расследаванне было праведзена максімальна аб'ектыўна».

Расследаванне будзе праводзіць генпракурор Аляксандр Канюк. Следчы камітэт будзе дапамагаць у гэтай справе.

Справа Казака была не адзінай дзіўнай падзеяй апошняга часу. Варта ўзгадаць яшчэ выбух на польскай мяжы і атаку на літоўскае пасольства. А да таго — палітычна матываваныя рэпрэсіі супраць гродзенскай інтэлігенцыі і часопіса Arche, дзіўны арышт за плюшавых мядзведзікаў фатографа Антона Сурапіна і рыэлтара Сяргея Башарымава.

Пазней высветлілася, што за дзень да адстаўкі Зайцава супрацоўнікі спецслужбаў арыштавалі па падазрэнні ў здрадзе дзяржаве наваполацкага актывіста, намесніка старшыні суполкі «Саюз маладых інтэлектуалаў» Андрэя Гайдукова. 11 лістапада прагучаў выбух каля віцебскага аддзялення КДБ.

Што можа азначаць часовае адхіленне Зайцава? На першы погляд, яно вельмі нагадвае адстаўку Шэймана пасля выбуху 4 ліпеня 2008. Нагадаем, яна была сігналам пра змену курса і прэлюдыяй да перамоваў з МВФ пра здабыццё танных крэдытаў для Беларусі.

Аднак прычынай адстаўкі могуць быць і нюансы следства па банальнай крымінальнай справе ці барацьба за правы між рознымі сілавымі ведамствамі, накшталт таго, як між Сухарэнкам і Ломацем у свой час.

У прэс-службе прэзідэнта заявілі, што кіраўнік дзяржавы «асабліва звярнуў увагу на тое, што ў калектыве органаў дзяржбяспекі не павінна быць салдафонства, у негатыўным разуменні гэтага слова».

«Гэта непрымальна і недапушчальна гэтак жа, як нервовасць, не дай бог, запалохванне, якія знішчаюць творчае стаўленне да справы і спараджаюць пасіўнасць і абыякавасць у супрацоўнікаў», — цытуе прэс-служба выказванні А.Лукашэнкі.

За 18 гадоў кіравання Брэжнева былі толькі два кіраўнікі КДБ (Семічасны і Андропаў), за Лукашэнкам памянялася ўжо сямёра.

**Зміцер Панкавец**

## Пяць фактаў пра генерал-лейтэнанта Вадзіма Зайцава

Старшыня КДБ — **ключавая пасада** ў сённяшняй Беларусі.

### 1. Атрымаў пасаду пасля тэракта

Імя Вадзіма Зайцава шырокай грамадскасці стала вядома пасля тэракта 2008 года на стэле «Мінск — горад-герой». Намесніка старшыні памежнага камітэта Зайцава прызначылі старшынёй камітэта дзяржаўнай бяспекі замест Юрыя Жадобіна, які на кароткі тэрмін перайшоў працаваць у Раду бяспекі. Дарэчы, тыя змены ў кіраўніцтве краіны былі ацэненыя як пасыл Еўропе. Лукашэнка тады звольніў «ястрабаў» Шэймана і Нявыгласа.

Прызначыўшы ўраджэнца Украіны Зайцава, Лукашэнка парушыў савецкую традыцыю, калі ў органы дзяржбяспекі не ставіліся этнічныя беларусы. За часамі СССР ГПУ Беларусі ўзначальваў толькі адзін беларус — Піліп Мядзведзь (1924–1925). Ужо ў перабудову КДБ узначаліў Шыркоўскі.

### 2. Пашырыліся вярбоўкі

Менавіта за кіраўніцтвам у КДБ Вадзіма Зайцава пачалі шырока агучвацца грамадскімі актывістамі выпадкі вярбоўкі. Прычым вербавалі стваральнікаў незалежных інтэрнэт-рэсурсаў, гей-актывістаў, мадэратараў груп у сацыяльнай сетцы «Укантакце».

Асабліва буйныя памеры вярбоўка набыла пасля прэзідэнцкіх выбараў у СІЗА КДБ (амерыканцы). Аказаўшыся ў нялюдскіх умовах, былі завербаваныя кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч, кіраўнік штаба Андрэя Саннікава Уладзімір Кобец. Але яны агучылі факт вярбоўкі, публічна адмовіліся ад супрацоўніцтва. Астатнія вязні «амерыканкі» таксама прызнаваліся, што да іх прыходзілі з падобнымі прапановамі.

### 3. Меў размову з Андрэем Саннікавым

«31 снежня ў мяне была прымусовая гутарка са старшынёй КДБ Вадзімам Зайцавым, які пагражаў жыццём і здароўем жонкі і дзіцяці. Калі я адмовіўся, то Зайцаў сказаў, што супраць іх будуць больш жорсткія метады. Я быў уражаны. І зразумеў, што ад мяне залежыць жыццё жонкі і дзіцяці», — такія паказанні на судзе даваў кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў.

Перад мінулымі прэзідэнцкімі выбарамі Зайцаў пагражаў пра затрыманне кур'ераў апазіцыі, але нідзе далей падрабязнасцяў не было. Дык ці існавалі яны ўвогуле?

### 4. Падмяў Генпракуратуру, МУС

Ужо праз месяц пасля прызначэння Зайцава на пасаду старшыні былі істотна пашыраныя паўнамоцтвы Камітэта. Было дазволена праводзіць аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы, прымяняць рашэнні па меры ўтрымання і здзяйсняць асобныя працэсуальныя дзеянні па пастановах старшыні КДБ. Тагачасны генеральны пракурор Рыгор Васілевіч не пагадзіўся з такімі прапановамі.

У хуткім часе Генпракуратура пацярпела ад наватвядзенняў. Паводле пастановы Вадзіма Зайцава была заведзеная крымінальная справа на следчую па асабліва важных справах Генпракуратуры Святлану Байкову.

Менавіта пры Зайцаву разгарнулася вядомая «паляўнічая справа», якая стала апагеем змагання КДБ і МУС. «Чэкісты» атрымалі перамогу. Праводзіліся арышты і ў Дзяржкантролі.

### 5. Як з мядзведзікамі

Сітуацыя з адстаўкай Вадзіма Зайцава нагадвае жнівеньскую гісторыю з кіраўніком памежнага камітэта Ігарам Рачкоўскім. Тады афіцыйныя крыніцы адмаўлялі факт шведскага плюшавага дэсанта над Беларуссю. Пакуль у справу не ўмяшаўся Лукашэнка.

Цяпер у КДБ гэтак сама адмаўлялі факт самагубства аднаго з супрацоўнікаў. Лукашэнка на пятнічнай нарадзе пацвердзіў, што падпалкоўнік Казак сапраўды зрабіў сабе смерць.

У выніку Рачкоўскага праз нейкі час прабачылі, прызначыўшы віцэ-прэзідэнтам НАК. Зайцаву можа таксама знайсціся месца ў спорце. Ён узначальвае фэдэрацыю біятлона. Сёлета Зайцавым быў падпісаны кантракт на трэнерства зборнай не абы з кім, а з самім Рафаэлем Пуарэ, адным з найлепшых біятланістаў у гісторыі.

**ЗП**

# Абвінавачаны ў здрадзе дзяржавы Андрэй Гайдукоў працаваў слесарам, ягоны падзельнік — у ЖКГ

КДБ: Гайдукоў **закладаў тайнік** для замежных спецслужбаў.

8 лістапада ў Віцебску быў затрыманы намеснік кіраўніка моладзевай суполкі «Саюз маладых інтэлектуалаў» Андрэй Гайдукоў. Цяпер ён знаходзіцца ў СІЗА КДБ (амерыканцы). Цікава, што пра дзейнасць Саюза раней нічога не было чуваць.

Паводле наяўнай, абрыўкавай інфармацыі, КДБ абвінавачвае маладога актывіста ў намеры заключыць пагадненне з амерыканскімі спецслужбамі (ЦРУ). Гайдукова падазраюць па артыкуле 356 «Здрада дзяржаве». Гэта ад 7 да 15 гадоў турмы. Хоць спачатку абвінчавалі па артыкуле 356 ч.1 «Усталяванне супрацоўніцтва са спецслужбай, органам бяспекі або разведвальным органам замежнай дзяржавы». Паводле яго, можна атрымаць не больш за два гады.

Што такое «Саюз маладых інтэлектуалаў»? Старшыня арганізацыі Яўген Канстанцінаў кажа: «Мы ўтварыліся тры гады таму, летась удзельнічалі ў Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі. Хаця найперш мы грамадска-культурніцкая арганізацыя. Ствараем платформу для партыі інтэлектуалаў».

Яўген Канстанцінаў называе абвінавачанні супраць Гайдукова абсурднымі. «Гэта трызненне. Ён не вучоны, не вайсковец, не разведчык. Ён нават не ведае англійскай мовы, у школе вывучаў нямецкую».

Андрэй Гайдукоў працаваў звычайным слесарам на заводзе «Нафтан» у Наваполацку. Навучаўся ва ўніверсітэце завочна.

Мама Андрэя Гайдукова Вольга Пятроўна кажа: «Вядома, у сына быў свой пункт гледжання на ўсё. Ягонае затрыманне — ці звычайнае глупства, ці падстава».

Жанчына гаворыць, што 8 лістапада ў іх дома прайшоўператрус. Канфіскавалі камп'ютары, тэлефоны. У панядзелак яна разам з Яўгенам Канстанцінавым ездзіла ў Мінск, каб перадаць сыну неабходныя рэчы.

«Цяпер у яго дзяржаўны адвакат, але шукае іншага. Тут вельмі цяжка, бо гэта не маёмасныя справы, напрыклад. У гэтай сферы знайсці спецыяліста не так і лёгка», — кажа Вольга Пятроўна.

Дарэчы, Андрэй Гайдукоў не быў сябрам Хрысціянскай дэмакратыі, як паведамілі некаторыя інтэрнэт-старонкі. «Я некалькі разоў з ім размаўляла па тэлефоне, але ён не далучаўся да нашага аргкамітэта», — кажа кардынатар БХД па Віцебшчыне Таццяна Севярынец.

Затое ў БХД быў Ілля Багданаў з Полацка, якога таксама затрымлівалі па гэтай справе 8 лістапада. «Дамовіўся з сябрам, што ён пераначуе ў мяне, яму трэба было некуды ехаць, а я жыву побач з вакзалам. Чую званок у дзверы, адчыняю. Стаяць невядомыя мужчыны. Кажуць, з КДБ. Разам з імі былі два студэнты — панятыя».

У Іллі Багданава дома канфіскавалі дыскі, флэшкі, як звязаныя з «Саюзам маладых інтэлектуалаў», так і з БХД. Сярод іх былі і заклікі на Плошчу-2010.

«Надзелі наручнікі, кінулі на задняе сядзенне машыны. Спачатку адвезлі ў Наваполацк, там яшчэ раз правялі асабісты надгляд, а потым павезлі ў Мінск», — кажа Ілля Багданаў. У сталіцы яны былі бліжэй да гадзіны ночы.

«Павялі мяне з наручнікамі некуды наверх. Казалі, каб не паварочваў галаву. Мне здалося, што там бачыў Гайдукова ў апошні раз. Прывялі да следчага, быў допыт. Не магу сказаць, што на ім было [даў падпіску аб неразгалошванні]. Мне паказалі доказы супраць Гайдукова. Доказы не пісьмовыя. Але там усё вельмі сур'ёзна. Біць не білі, але псіхалагічны ціск быў».

Хлопец кажа, што пасля допыту яго выставілі з будынка. «Я злавіў таксі і папрасіў, каб давезлі да кальцавой. Заплаціў сто тысяч. Лавіў папуткі, людзі ўвайшлі ў маю сітуацыю і нават не ўзялі грошай. Прыехаў дадому, прыняў душ і нават да 8-й раніцы паспеў на працу».

Ілля Багданаў працуе ў сістэме ЖКГ Полацка. «На наступны дзень на працу прыходзілі супрацоўнікі КДБ. Казалі, што Гайдукоў мяне здаў. Магчыма, гэта ў іх такі псіхалагічны трук, але мне ўзгадалася апошняя размова з Гайдуковым, дзе той казаў: «Калі што, я цябе таксама за сабой пацягну».

Прэс-служба КДБ паведамляе, што Гайдукоў па заданні замежнай выведкі займаўся «зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару». А затрыманы ён быў, калі закладаў тайнік для замежных спецслужбаў.

Пакуль што Ілля Багданаў адмаўляецца паведамляць, у якім статусе ён знаходзіцца. Таксама і мама Андрэя Гайдукова не ведае, на колькі дзён яе сын узяты пад варту.

**Зміцер Панкавец**




Андрэй Гайдукоў.

# Каля будынка КДБ у Віцебску ўзарвалі бомбу

Працяг са старонкі 1.

Многія адразу правялі паралель між гэтым выбухам і тэрактам у Віцебску 2005 года, які, як устанавіў суд, быў справай рук Канавалава і Кавалёва — іх расстралялі. Аднак першая паралель падманная. Акрамя горада больш два выпадкі нічога не лучыць. Выбух 2005 года адбыўся ў людным месцы, а выбуховая прылада была напоўнена паражальнымі элементамі. Гэтым разам здарэнне нагадала хутчэй сімвалічныя падзеі 2010 года ў Бабруйску, калі Васьковіч, Пракапенка і Сырамалотаў шпурнулі ў будынак спецслужбы кактэйль Молатава.

Справу па факце выбуху каля віцебскага КДБ завялі па частцы 3 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса (асабліва злоснае хуліганства). Як вынікае з афіцыйнага паведамлення цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў (ЦІГС) Камітэта дзяржбяспекі, выбух адбыўся а 18.48.

Паводле першых ацэнак следства, прылада ўяўляла сабой кардонны або пластмасавы тубус, начынены 50–70 грамамі піратэхнічнай сумесі і памешчаны ў бляшанку ёмістасцю 0,25–0,33 літра, якое было прыведзена ў дзеянне шляхам падпалу.

«У выніку неадкладных следчых дзеянняў і на падставе паказанняў сведак затрыманы тры чалавекі, адзін з якіх, са знешнімі прыкметамі адхіленняў ад нармальных паводзінаў, раней ажыццяўляў тэлефонныя званкі ва УКДБ з некарэктнымі выказваннямі на адрас органаў улады. На месцы здарэння працуе аператыўна-следчая група», — гаворыцца ў паведамленні ЦІГС КДБ.

Частка 3 артыкула 339 КК прадугледжвае пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін ад трох да пяці гадоў або пазбаўленнем волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў.

Канавалава з Кавалёвым затрымалі амаль праз шэсць гадоў пасля віцебскіх выбухаў. У 2005 жа па «гарачых слядах» затрымалі братоў Мурашкаў. Праз паўгода іх выпусцілі — было занадта відавочна, што арыштавалі не тых. Але браты дагэтуль не выкідаюць ніводнага чэка з магазінаў — каб было алібі на ўсялякі выпадак. Так запалохалі хлопцаў.

Чарада малазначных, але гучных здарэнняў апошняга тыдня, на першы погляд, выглядае нібы чыясьці спроба накаліць абстаноўку ў грамадстве.

**Мікола Бугай**



У панядзелак будынак віцебскага КДБ быў ачэплены, блізка да яго нікога не падпускалі.

### На беларуска-польскай мяжы адбыўся выбух

КДБ распаўсюдзіў паведамленне аб выбуху на адным з участкаў беларуска-польскай мяжы. 5 лістапада каля 3.00 у дзяжурную службу ўпраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці ад прадстаўнікоў Гродзенскай пагранічнай групы паступіла інфармацыя аб парушэнні дзяржаўнай мяжы групай асоб. Па папярэднім заключэнні памежнікаў, мяжа была парушана «з Беларусі ў Польшчу».

Потым службовыя асобы пагрангрупы паведамілі, што ў раёне нелегальнага пераходу ў ходзе пошуку выяўлены прыкметы выкарыстання выбуховай прылады. Чалавечых ахвяр на месцы няма.

Пазней паступіла інфармацыя аб затрыманні на польскім баку сямі асоб з краін Афра-Азіяцкага рэгіёна. Затрыманне было ажыццёўлена па інфармацыі беларускіх памежнікаў, паведамляе БелаПАН.

Варта адзначыць, што колькасць падобных выпадкаў на мяжы значна павялічылася пасля таго, як Лукашэнка заявіў, што Беларусь больш не будзе дапамагаць Еўрасаюзу ў адлоўліванні нелегалаў, калі самі еўрапейцы не дапамогуць матэрыяльна ў гэтай справе.

## Кактэйль Молатава шпурлянулі ў пасольства Літвы

Адбылося гэта 6 лістапада каля 22.45. Ніхто не пацярпеў. Заведзена крымінальная справа па артыкуле «Злоснае хуліганства».

На працы пасольства інцыдэнт ніяк не адбіўся, як выдавалі візы, так і выдаюць.

Пасольства Літвы перадало ноту пратэсту Міністэрству замежных спраў Беларусі. Прэм'ер-міністр Літвы Ажубаліс нават сказаў, што супраць ягонай краіны быў здзейснены тэракт.

Галава камітэта па нацыянальнай бяспецы сейма Літвы Арвідас Анушаўскас звяртае ўвагу, што гэта было здзейснена перад 7 лістапада, які ў Беларусі адзначаецца як Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. У Літве ж была забаронена нават савецкая сімволіка.

Пазней стала вядома, што з камер відэаназірання не бачна, хто здзейсніў напад. Немагчыма нават разабрацца, ці гэта мужчына, ці жанчына.

Лукашэнка ж узгадаў момант з падобным нападам на расійскае пасольства. «Знайшлі гэтых людзей (справа анархістаў: Аліневіча, Дзядка, Францкевіча — «НН»), сёння яны ў месцах не гэтак аддаленых. Яны сёння палітычныя вязні — Літва крычала гвалтам, што яны палітычныя вязні. А калі ім гэтыя бутэлькі кінулі — гэта тэрарызм. Вось іх палітыка. Гэта не падвойныя стандарты, гэта проста жлобская палітыка», — падкрэсліў кіраўнік краіны.

**ЗП**

# Мільянер Хусаенаў:

## «Мой сын лінгвіст лічыць мяне прымітыўным чалавекам»

Заснавальнік «Атланта-М» прызнаўся, што ў 1990-ыя **меў «дах»**, але не ў злачынцаў, а **ў міліцыі**.



**Алег Ільгізавіч Хусаенаў**

Кіраўнік інвестыцыйнай кампаніі «Зубр Капітал»; адзін з трох уласнікаў аўтамабільнага холдынга «Атлант-М» і фонду SMH Holding Limited, які валодае Мінскім транзітным банкам, інтэрнэт-правайдарамі «Атлант Тэлекам» і «Сола», а таксама займаецца пастаўкамі лекаў. Грамадзянін Расійскай Федэрацыі, кавалер расійскага Ордэна дружбы народаў, «Прадпрымальнік года-2009» (Расія). У спісе самых уплывовых і паспяховых бізнэсмэнаў Беларусі займае 8-е месца.

У Палацы дзяцей і моладзі адбылася чарговая сустрэча са знакавай персонай беларускага бізнэсу. Сотня студэнтаў прыйшла паслухаць выступ Алега Хусаенава — заснавальніка холдынга «Атлант-М» і інвестфонду «Зубр Капітал».

### Скончылася размеркаванне — заняўся ўласнай справай

Бізнэсмэн нарадзіўся у 1964 у сям'і геолагаў у Паўночным Казахстане, куды яго бацькі трапілі пасля ўніверсітэта. «Там я скончыў фізматшколу, прычым вельмі добра. У 1982 паехаў у Маскву. Паступіў у інстытут інжынераў грамадзянскай авіяцыі. Я хацеў лятаць і хацеў у Маскву. За 6 гадоў я так налятаўся, што лятаць больш не хацелася, — расказвае ён. — Пры канцы ўніверсітэта я марыў стаць міністрам хоць якога міністэрства, але ў 1988 па размеркаванні трапіў у Мінск. Там 2 гады я прапрацаваў маладым спецыялістам на заводзе халадзільнікаў».

Хусаенаву не сядзелася на месцы, і ён вырашыў з сябрамі стварыць кааператыў па мыцці вокнаў. Людзі з завода, якія працавалі з ім, атрымлівалі дадатковы заробак у 10 разоў большы, чым на абслугоўванні станкоў.

У дзень, калі скончыўся тэрмін размеркавання, будучы мільянер адразу падаў заяву на звальненне. У той час пачала развівацца біржа, і ён вырашыў паспрабаваць сябе там.

«Я перачытаў шмат літаратуры. Чытаў лекцыі нават дырэктарам заводаў. У выніку вырашылі ўзяць крэдыт у «Беларусбанка» на куплю месца на Беларускай таварнай біржы. За паўгода гэты крэдыт мы вярнулі. Потым так выйшла, што набылі месца на расейскай аўтамабільнай біржы, — узгадвае Хусаенаў. — Так і ствараўся «Атлант-М»... Мы набывалі МАЗы на мінскай біржы, пераганялі іх у Расію, прадавалі там, набывалі КамАЗы на маскоўскай біржы і пераганялі іх сюды. Далей развіццё пайшло па геаметрычнай прагрэсіі».

«Зубр Капітал» — цяперашняе месца працы мільянера

Вядомасць Хусаенаву прынёс холдынг «Атлант-М».

### Рынак на 168 мільёнаў чалавек

Год таму Хусаенаў пакінуў сваю пасаду ў «Атланце-М» і ашаламіў навіной пра тое, што пачынае развіваць новы праект — інвестыцыйны фонд «Зубр Капітал». Чаму менавіта ў Беларусі? «Ніхто гэтым у нас не займаецца. Мы карыстаемся тымі магчымасцямі, якія з'явіліся ў нас пасля ўступлення ў адзіную эканамічную прастору. Калі мы цяпер у Мытным саюзе, у нас ужо 168 мільёнаў насельніцтва і мы ўжо частка яго, толькі што знаходзімся на захадзе».

На яго думку, Беларусь гістарычна мела самую высокую культуру вытворчасці. Таму тавары, выробленыя ў нашай краіне, маюць добрую рэпутацыю на расейскім рынку.

«Бываюць сітуацыі, калі хочацца апусціць рукі і энергія скончваецца, — прызнаецца Хусаенаў. — Калі табе здраджваюць, калі дзяржава ціснe...»

Цікавым стала прызнанне, што ў свой час Хусаенаў меў «дах» у міліцыі. «Я пачынаў бізнэс у 1991, — расказвае ён. — Аўтамабільны бізнэс было немагчыма мець без «даху». Мы адразу вырашылі, што не будзем звязвацца са злачынцамі, таму ў нас быў міліцэйскі «дах». Мы не давалі ніякага хабару, а рабілі прасцей: давалі ім машыны ў арэнду ці проста так, яны на іх лавілі злачынцаў і, адпаведна, дапамагалі нам».

### Вялікая сям'я

Хусаенаў адказаў і на пытанні, якія тычыліся асабістага жыцця. Слухачам было цікава зазірнуць за шырму афіцыёзнасці і пабачыць у асобе мільянера звычайнага чалавека, які мае бытавыя і сямейныя праблемы.

«Ці развіты я духоўна? Ну вось, мой другі сын па адукацыі філолаг, лінгвіст. Ён спачатку вучыўся ў Маскве, а цяпер вучыцца ў Вялікабрытаніі. Перачытаў шмат кніг і можа па ўрыўку вызначыць, хто напісаў твор. Дык ён лічыць мяне прымітыўным чалавекам. Можа, так і ёсць. Я, магчыма, не такі начытаны, але добра разбіраюся ў мастацтве. Дзе б я ні быў, я заўсёды імкнуся наведваць нацыянальныя галерэі».

У выхаванні дзяцей бізнэсмэн аказаўся патрабавальным, але справядлівым татам. «Я ніколі не ставіў перад сабой мэты, каб перадаць кіраванне бізнэсам сваім дзецям, бо я лічу, што на свеце ёсць больш таленавітыя людзі, чым мае дзеці, каб кіраваць маёй справай. Я шматдзетны тата, у мяне іх пяцёра, і я бачу іх моцныя і слабыя бакі. Калі я займаўся выхаваннем свайго старэйшага сына, якому цяпер 25 гадоў, то ён даводзіў мяне да слёз, бо матэматыку ён зусім не разумеў, — узгадвае ён. — Потым я зразумеў, што ён мае свае таленты. Ён вельмі хутка асвойвае замежныя мовы і ў яго ўсё добра з камунікацыяй. Адпаведна, мы імкнёмся пабудаваць яго кар'еру з яго здольнасцямі. Другі мой сын — таксама матэматычная няўдача, але хай ён будзе паспяховым лінгвістам, чым няўдалым бізнэсоўцам».

**Вольга Гарапучык**

# Навошта віннаму заводу малочна-дайльны цэх?

99,96% акцыянераў Мінскага завода пеністых вінаў пагадзіліся **павялічыць долю дзяржавы**.

Мінарытарным акцыянерам Мінскага завода пеністых вінаў я стаў паўгода таму, падчас так званай народнай прыватызацыі прадпрыемства. Праўда, мая доля была найменшай сярод саўласнікаў завода — роўна адна акцыя. Цяпер доля стане яшчэ меншай: сход акцыянераў пагадзіўся надрукаваць дадатковыя акцыі і аддаць іх дзяржаве.

Зрэшты, пра ўсё па парадку. Пазачарговы сход акцыянераў адбываўся ў прамерзлым Палацы культуры МТЗ. Па законе, інфармаваць кожнага саўладальніка няма патрэбы, дастаткова навіны на сайце прадпрыемства. Тым не менш з сотню акцыянераў сабралася. У кожнага ў руках бланк з колькасцю галасоў — набытых акцый.

Арганізатары паведамілі, што рэгістрацыю прайшлі ўласнікі 740 тысяч акцый з 885 тысяч, якія знаходзяцца ў звароце. Кворум ёсць.

На парадку дня пытанне «Аб прынцыповай згодзе на павелічэнне долі Рэспублікі Беларусь у статутным фондзе ААТ «Мінскага завода пеністых вінаў» на суму аказанай дзяржаўнай падтрымкі...» Іншымі словамі, акцыянерам прапанавалі надрукаваць дадатковыя акцыі і аддаць іх дзяржаве, каб не вяртаць узяты крэдыт. Праўда, гаворка вялася ўсяго пра 0,78% акцый прадпрыемства. Дзяржаўная доля тым часам ужо складае 81,39% акцый.

Крэдытныя грошы былі ўзятыя ў «Беларусбанка»... на будаўніцтва малочна-дайльнага цэха ў вёсцы Блужа на Пухавіччыне. Ці прымяняецца малако ў вытворчасці віна? Менавіта гэта пытанне я і задаў прадстаўніцы эканамічнага аддзела завода. «Не прымяняецца», — прызналася яна. Але паколькі калгас у Блужы павесілі менавіта на завод, то і цягнуць яго даводзіцца заводу. «А якая рэнтабельнасць калгаса?» — «Было каля 10%».

Услед падцягнуліся і іншыя акцыянеры са сваімі пытаннямі: «У якую суму абыходзіцца ўтрыманне калгаса?» — «Каля 3–5 мільярдаў рублёў штогод. Агулам ужо 37 мільярдаў». — «Ці рэальна трымаць калгас без дзяржаўнай дапамогі?» — «Так, але чаму б не выкарыстоўваць яшчэ і дапамогу...» —«Ці разглядаўся варыянт узяць крэдыт за мяжой?» — «Не, бо «Беларусбанк» і так даваў ільготныя ўмовы».

Акцыянеры яшчэ даведаліся, наколькі ў Блужы вырасла ўраджайнасць бульбы (з 71 да 200 цэнтнераў з гектара) і надоі малака (з 1630 да 4750 тон). «Калгас — гэта доўгатэрміновы ўклад з аддачай у будучыні», — падсумавала эканамістка. Пасля такіх аргументаў жаданне правесці спрэчкі ні ў кога не з'явілася.

Прыйшоў час галасаваць. Стаўлю «супраць» — мне не хочацца, каб намінал маёй адзінай акцыі зменшыўся яшчэ.

Нарэшце падліковая камісія гатовая агучыць лічбы. «Супраць» прагаласавалі ўласнікі толькі 153 акцый. А вось 99,959% акцыянераў пагадзілася на дадатковую эмісію. Неўзабаве доля кожнага з іх трохі зменшыцца.

**Ягор Марціновіч**

# Работнікам завода ў Бярозаўскім раёне забаранілі агучваць свае заробкі



РАСПИСКА

Согласно п.10 с. 53 Трудового кодекса Республики Беларусь обязанностью работника является хранение государственной и служебной тайны, неразглашение без соответствующего разрешения коммерческой тайны нанимателя. В соответствии с законодательством Республики Беларусь на предприятии ИП «Сария Био-Индастрис» заработная плата работника является предметом коммерческой тайны.

В целях исключения распространения слухов и сплетен, а также нормализации обстановки в коллективе, я ______________________, обязываюсь не разглашать данные о своей заработной плате другим сотрудникам предприятия и третьим лицам.

Мне разъяснено, что в соответствии с Трудовым кодексом Республики Беларусь разглашение сведений, составляющих коммерческую тайну, будет квалифицироваться как грубое нарушение трудовых обязанностей, а также неисполнение без уважительных причин обязанностей, возложенных на него трудовым договором (контрактом) или иным документом, что в дальнейшем будет являться основанием для увольнения в соответствии с п.1 ст. 47, п. 4 ст. 42 ТК РБ.

Мне известно, что в случае разглашения сведений, составляющих коммерческую тайну, наниматель вправе обратиться в органы внутренних дел с требованием о возбуждении административного процесса по факту совершения административного правонарушения, предусмотренного ст. 22.13 кодекса Республики Беларусь об административных правонарушениях, в соответствии с которой умышленное разглашение коммерческой или иной охраняемой законом тайны без согласия ее владельца лицом, которому такая коммерческая тайна известна в связи с его профессиональной или служебной деятельностью, если это не влечет уголовной ответственности, влечет наложение штрафа в размере от четырех до двадцати базовых величин.

______________ Дата ______________ Подпись

**Распіску даслаў адзін з супрацоўнікаў «Сарыі Бія-Індастрыс».**

Ад супрацоўнікаў замежнага прадпрыемства адміністрацыя патрабуе распіску, што памеры заробкаў не будуць разгалошвацца.

Адзін з работнікаў прыслаў у Рэдакцыю копію шаблона распіскі. У ёй працадаўца спасылаецца на тое, што «заробак з'яўляецца прадметам камерцыйнай таямніцы», якую нельга агучваць без дазволу наймальніка.

Работнік «Сарыі Бія-Індастрыс» мяркуе, што «дырэктар нічога лепшага не прыдумаў, каб пазбегнуць надакучлівых пытанняў наконт заробку і яго павышэння, як увогуле забараніць гэтую тэму для абмеркавання пад страхам быць пакараным і ў далейшым — звольненым».

І дадае, што заробак на прадпрыемстве — не самы вялікі на раёне.

Адміністрацыя такі крок тлумачыць па-свойму — «у мэтах выключэння распаўсюджвання чутак і плётак, а таксама дзеля нармалізацыі абстаноўкі ў калектыве».

Юрысты такую распіску называюць незаконнай. І адзначаюць, што паводле пастановы Савета Міністраў 6 лістапада 1992 №670 камерцыйную таямніцу не могуць складаць звесткі пра колькасць і склад работнікаў, іх заробкі. І нельга чалавека прымусіць падпісаць такі дакумент.

**Сяргей Макарэвіч**

**«Сарыя Бія-Індастрыс»**

замежнае прыватнае вытворча-гандлёвае прадпрыемства. Асноўная дзейнасць — збор адкідаў жывёльнага паходжання; перапрацоўка іх для вытворчасці кармавой мяса-касцявой мукі і тлушчу жывёльнага тэхнічнага і кармавога.

## Вайцюшкевіч запіша альбом блатняка па-беларуску

**Выходзіць дыск спеваў на вершы Рафала Ваячака, класіка блатняка — на чарзе.**

Рафал Ваячак — адзін з самых заўважных польскіх паэтаў 1960-х, з трагічным лёсам: некалькі спробаў самагубства, дэпрэсія, у выніку атручанне.

«Тыя часы ўяўляюцца мне такой суцэльнай шэрасцю, а паэзія Ваячака — гэта своеасаблівы крык у шэрасці, — разважае Вайцюшкевіч. — А польская моладзь таго часу шукала сабе прыгоды на галаву, бо там і Захад быў блізка. Цікавасць да Ваячака ўзнікае хвалямі — пра яго знялі фільм, кнігі ягоныя перавыдаюць. Некаторыя лічаць яго паэтам „для дзяўчынак 16–18 гадоў«, але гэта не так».

«Я працаваў над гэтым матэрыялам шэсць гадоў, — кажа Зміцер Вайцюшкевіч. — Спачатку песні выйшлі па-польску, але я зразумеў, што я не ўсё ў іх „даганяю«, і мы запісалі беларускамоўныя версіі».

Спецыяльна для альбома, які, дарэчы, так і называецца — «Ваячак» — Вайцюшкевіч у чарговы раз змяніў эстэтыку гучання «Усход-Захад Аркестра».

Прэзентацыя новага альбома мусіць адбыцца ў найбліжэйшы час, але месца пакуль дакладна не вядома.

Паралельна з песнямі на вершы Ваячака на апошніх канцэртах Вайцюшкевіч выконваў і песні з іншага праекта — класіка блатнога жанру па-беларуску.

«Яны пакуль не запісаныя, — тлумачыць Вайцюшкевіч. — Але мы іх запішам, бо цікавая рэакцыя на іх. Год таму я спяваў «Мурку» па-беларуску, і гэтым вельмі абурыўся Сяргей Каваленка — маўляў, на халеру нам тыя расейскія блатнякі. Але мы іх бачым, напрыклад, у эфіры радыё «Рокс». І, насамрэч, лепей шкадаваць, што мы зрабілі гэта, чым што не зрабілі».

Набыць новы альбом Змітра Вайцюшкевіча можна толькі на сайце prastora.by. Кожны асобнік — з аўтографам музыкі.

**Юрась Ускоў**




## Работніца дзіцячага садка ў Брэсце падпрацоўвала прастытуткай

Пра гэта паведаміў намеснік начальніка Упраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі УУС Брэсцкай вобласці Уладзімір Жыгар.

Сп. Жыгар паведаміў, што на мінулым тыдні супрацоўнікамі ўпраўлення ў Брэсце была затрыманая жанчына, якая абслугоўвала кліентаў прама ў сябе на кватэры.

За сэкс яна брала 80 даляраў ЗША. Самае страшнае, кажа Жыгар, што жанчына з'яўляецца работнікам адной з дашкольных установ.

**АГ**

**Фотафакт**



### Адкусі галаву цаццы

Жаданне айчынных аўтааматараў абараніць фаркопы (цягава-сцапное прыстасаванне) сваіх аўто ад карозіі, часам прыводзіць да фармавання цэлай культурнай з'явы.

Дакладна не вядома, калі і як узніклі такія звычкі. Хутчэй за ўсё, гэта вынік савецкай неўладкаванасці і крэатыву тых часоў. Зрэшты, не вядома, чаму функцыю абароны аўтамабільных прыстасаванняў пачалі выконваць менавіта патрыманыя дзіцячыя цацкі.

На сучасных замежных аўто для абароны фаркопу цяпер выкарыстоўваюцца спецыяльныя калпакі. Але тое, што практычныя патрэбы пераўтварыліся ў дзіўную айчынную ці постсавецкую культурную з'яву — несумненны факт.

**Сяргей Гудзілін**

## Зборная Беларусі наведала Сцяну Плачу




Беларускія футбалісты згуляюць з ізраільскімі. Матч пройдзе ў Ерусаліме. Хапіла часу ў нашых не толькі на трэніроўкі, але і на культурную праграму. Перад сустрэчай яны наведалі Сцяну Плачу і Храм Труны Гасподняй. **На фота:** на пярэднім плане трэнер Георгій Кандрацьеў.

## Акапулька абвешчаны горадам-банкрутам



Улады мексіканскага курортнага горада кажуць, што да канца гэтага года муніцыпальны доўг дасягне больш за 160 млн даляраў.

Яны падкрэсліваюць, што для выхаду з сітуацыі ім патрэбна фінансавая дапамога федэральных уладаў.

Цяперашняе кіраўніцтва Акапулька вінавацціць у банкруцтве папярэднія ўлады горада і складаную крымінагенную абстаноўку.

**Бі-бі-сі**

# Дырэктарка «Белсата»: **Часам жаданне прадэманстраваць сваю рацыю мацнейшае за здаровы сэнс**

Незалежны спадарожнікавы канал «Белсат» працуе ўжо 5 год. З дырэктаркай канала Агнешкай Рамашэўскай-Гузы размаўляе Наталка Бабіна.



**Наталка Бабіна: Пачну з прыватнага. Як глядачка, якая рэгулярна глядзіць канал і ўсім сэрцам жадае яму поспеху, маю дзве канкрэтныя прэтэнзіі да «Белсата». Першае, што выклікае ў мяне пэўнае непрыманне, гэта мова канала. Мне здаецца, важна, каб мова на канале была прыгожай і яснай, каб яна прываблівала. А мне часта мова перадач падаецца штучнай, занадта ўжо «кніжнай», не такой, якую я чую ў школе, дзе вучацца мае дзеці, або ад носьбітаў мовы ў вёсцы, дзе я жыву.**

**Агнешка Рамашэўская-Гузы:** Гэта важная праблема, але і вельмі цяжкая для мяне асабіста. У гэтым пытанні я не магу мець свайго дакладнага пункта гледжання, бо не ведаю беларускай мовы да такой ступені, каб ацаніць яе стыль, каб ацаніць, калі лепш казаць «ровар», а калі «веласіпед». Але я цалкам згодная, што з тэлевізара павінна гучаць мова, максімальна набліжаная да той, якой гавораць у Беларусі. Беларуская мова цяпер пад такой пагрозай, што нельга забаўляцца ў нейкія гульні з архаізмамі. Цалкам згодная, што мова павінна быць максімальна зразумелай. Але для некаторых людзей іх уяўленні пра мову — самыя правільныя і выкараніць іх можна, толькі вырваўшы разам з сэрцам. І варта на хвілінку адвярнуцца — і чарговы фільм зноў перакладзены не так, як хацелася б...

У нас ёсць моцная рэдакцыя, якую ўзначальвае Зміцер Саўка, і ён пільнуе, каб мова інфармацыі і публіцыстыкі былі адпаведныя таму, што ён лічыць правільным.

**НБ: Але калі ў серыяле «Пуаро» зразумелае ўсім беларусам слова «міс» перакладаюць як «спадарычна», то гэта так ужо прыцягне гледачоў да мовы…**

**АР-Г:** У справах беларускай мовы часам рэдактары бываюць вельмі эмацыйныя. Нядаўна быў выпадак, калі для польскага канала трэ было перакласці на польскую вельмі добры фільм «Страх у краіне спакою». І калегі настаялі, каб прозвішчы ў цітрах пісаліся не па-польску, але беларускай лацінкай. У выніку вядомае ў Польшчы і зразумелае прозвішча «Шушкевіч» гучала для палякаў як «Сускевіц»... Часам жаданне прадэманстраваць сваю рацыю бывае мацнейшае за здаровы сэнс...

**НБ: Чаго яшчэ не стае мне як гледачу, — то гэта відовішчнасці, шоу. Ці плануе «Белсат» рабіць забаўляльныя перадачы, папулярныя ў падлеткаў, тыпу «Украіна мае талент» або «Фабрыка зорак»?**

**АР-Г:** Не, бо гэта страшна дорага каштуе. На жаль, наша самая вялікая праблема — грошы. 1 млн 200 тыс. злотых каштуе толькі аплата за карыстанне спадарожнікам. А на спадарожнік трэба даслаць — гэта чарговыя некалькі сот тысяч злотых. Тэлевізійнае абсталяванне, закуп праграм — гэта ўсё грошы. Хаця, трэба прызнаць, што ў параўнанні з польскімі каналамі наш канал выдаткоўвае вельмі мала. Увесь наш бюджэт — каля 6 млн еўра на год. Для параўнання, нямецкі канал для замежнікаў «Дойчэ веле» каштуе ў 10 разоў больш — каля 60 млн еўра на год. Канал «Палонія» каштаваў у 2 разы больш, пры тым, што ён не прадукаваў сваёй інфармацыі. Тэлебачанне — штука дарагая. Я б проста марыла аб тым, каб ствараць свае серыялы, мастацкія фільмы. Але, каб стварыць некалькісерыйны серыял, трэба столькі ж грошай, колькі складае гадавы бюджэт «Белсата». Такія шоу, як вы назвалі, таксама каштуюць дорага — каля дваццаці тысяч еўра кожная перадача. Акрамя таго, адкуль узяць гасцей і вялікую студыю ў Беларусі?

**НБ: Як Вы думаеце, ці глядзяць ваш канал чыноўнікі высокага рангу ў Беларусі?**

**АР-Г:** Ці глядзіць наш канал Лукашэнка — не ведаю. Можа, і не. Можа, яму не паказваюць, каб не расстройваць (смяецца).

**НБ: Па дзесяцібальнай сістэме якую б адзнаку паставілі «Белсату»?**

**АР-Г:** Моцнае 6. Ёсць перадачы на дзясятку, ёсць і на троечку, а ўвогуле — моцнае 6.

**НБ: Вы ўвогуле з аптымізмам глядзіце ў будучыню? У будучыню Беларусі і «Белсата»?**

**АР-Г:** Так, я чалавек, які бачыў цуд, таму я гляджу ў будучыню з аптымізмам. Я жыла ў камуністычнай Польшчы, і думала, што гэта ніколі не скончыцца. А гэта скончылася за два гады. Таму я веру ў цуды. У Беларусі кепскае геапалітычнае становішча, яна ва ўсіх сэнсах — у цені Расіі. Але кожны год дзяржаўнасці, незалежнасці, кожны год, калі беларусы адчуваюць сябе беларусамі, а не невядома кім — гэта дадатны год, гэта крок да аптымізму.

**Я жыла ў камуністычнай Польшчы і думала, што гэта ніколі не скончыцца. А гэта скончылася за два гады**

**Агнешка Рамашэўская-Гузы**

працуе дырэктаркай «Белсата» з 2007. Самым вялікім дасягненнем лічыць тое, што канал існуе, бо, «сказаць па шчырасці, сама не верыла, што канал будзе». У снежні 2005 яе пазбавілі акрэдытацыі і выслалі з Беларусі. Калі яна сядзела ў аэрапорце Мінска і чакала дэпартацыі, у яе і ўзнікла ідэя канала. Вось і стварылі, кажа Рамашэўская-Гузы, «такі праект "Ну, погоди!" для Лукашэнкі». «Мы адразу вырашылі, што будзем шукаць людзей без журналісцкага досведу, але з жаданнем працаваць, — расказвае яна. — Памятаю, як у 2006 годзе я спытала ў Алеся Залеўскага пры першай сустрэчы: «Колькі Вам год?» А ён адказвае: «Ну, хутка 20…» А цяпер мы маем вельмі прафесійны калектыў». «Важна памятаць, што журналісты «Белсата» рызыкуюць, — кажа яна. — І трэба знайсці людзей, якія згодны рызыкаваць. Мы ж не можам зняць гэтыя рызыкі, і журналісты гэта разумеюць».

**Рэцэпты ад дырэктаркі канала «Белсат» Агнешкі Рамашэўскай-Гузы**

**Бабка запараная (з кнігі В. Завадскай «Кухарка літоўская»)**

3—3,5 л мукі, 1 л малака, 175 г дражджэй, 800 г цукру, 1,5 л жаўткоў, трохі солі, 0,5 шклянкі разынак, скурка апельсіна, 3 шклянкі топленага масла.

1,5 л мукі запарыць трыма шклянкамі малака і расціраць лыжкай, каб не было камячкоў і каб астыла. Узбіць да белага колеру жаўткі з дробным цукрам, уліць гэта ў цеста, моцна вымешаць, уліць дрожджы, размяшаць і паставіць у цёплае месца, каб падышло. Калі падыдзе, усыпаць трохі солі, разынкі, дадаць парэзаную скурку апельсіна і мясціць доўга; у канцы ўліць топленае масла, усыпаць мукі столькі, каб цеста было такой густаты, як на лёгкія бабкі, выбіваць цэлую гадзіну, паставіць, каб падышло, вымешаць, уліваць па трэцяй частцы ў формы, а калі настолькі падыдзе, што формы будуць амаль поўныя, паставіць у гарачую печ на 1 гадзіну 15 хвілін.

**Рататуй**

2 цыбулі, 4 папрыкі, 6 памідораў, 2 невялічкія кабачкі, 1 зубчык часнаку, 100 г кілбасы, кроп.

Цыбулю пакроіць колцамі, салодкі перац — паскамі, памідоры апарыць гарачай вадой і абабраць скурку, цукіні парэзаць кубікамі. Падсмажыць на алійкавым алеі цыбулю да празрыстасці, дадаць памідоры, папрыку, патушыць, пакуль не выпарыцца трохі вадкасць, потым загусціць, дадаўшы кабачкі, і патушыць да гатоўнасці. У канцы можна дадаць парэзаную кілбаску, здробнены часнок, пасыпаць кропам і падаць з добрым свежым хлебам.

**НБ: Вы вельмі заняты чалавек, ваш працоўны графік вельмі напружаны. Так што напрыканцы пытанне ад чытачак «Нашай Нівы». Як сумяшчаеце працу з хатняй гаспадаркай? Можаце падзяліцца любімым рэцэптам?**

**АР-Г:** Паколькі я гісторык па адукацыі, мне падабаюцца рэцэпты з «Кухаркі літоўскай». Адзін з любімых рэцэптаў — запараная дражджавая бабка. Але яна стала ў мяне выходзіць безакорна толькі праз 12 год пасля таго, як яе пачала рабіць. Нягледзячы на няўдачы, я не здавалася, спрабавала кожны год. Нарэшце я яе трохі мадэрнізавала, адкрыла, што, напрыклад, у XIX стагоддзі дрожджы былі значна слабейшыя, вадкія, а не цвёрдыя, і таму ў нашыя часы трэба дадаваць іх на 1/3 менш; мука цяпер сушэйшая, не са старога млына, таму трэба нашмат больш малака, чым у старым рэцэпце. Дадаю ў два разы менш яек, яйкі (каля 30 жаўткоў на 1 літр мукі) і цеста ўзбіваю не ўручную на працягу гадзіны, а міксерам дваццаць хвілін... Агулам колькасць інгрэдыентаў з рэцэпта павінна дзяліцца на тры альбо на палову, таму што хто цяпер мае сям'ю на 15 чалавек, каб з'есці такі піражыска.

А вось больш сучасная страва, рататуй з асенняй гародніны, учора мы менавіта яго елі. Страва якраз для занятай жанчыны: вяртаешся з працы, садзіш мужа рэзаць гародніну, потым усё на патэльню — і страва гатовая! (смяецца)

# Дзевяціразовыя!

**БАТЭ стаў чэмпіёнам**
Беларусі.


GOALS.BY

Пасля перамогі над «Мінскам» (5:1) барысаўскі БАТЭ за два туры да фініша забяспечыў сабе чарговы тытул. Дзявяты ў гісторыі і сёмы запар. Тэарэтычна салігорскі «Шахцёр» можа дагнаць БАТЭ па пунктах, але па колькасці перамог «жоўта-сінія» апярэджваюць «жоўта-чорных».

Год для БАТЭ выдаўся цікавым. Трэнер Віктар Ганчарэнка ў пачатку сезона змяніў гульнявую схему каманды на так званы «ромб». Гэтая схема прыжывалася не вельмі гладка. Напрыклад, у першым туры быў пройгрыш ад усё таго ж «Мінска» (0:1).

У розныя перыяды года ў БАТЭ былі свае лідары. Дзмітрый Мазалеўскі забіваў у пачатку сезона, Дзмітрый Бага быў найлепшым у канцы красавіка, Андрэй Гарбуноў стаў надзейна ўвесь чэмпіянат, Віталь Радзівонаў забіваў неабходныя мячы ў Лізе чэмпіёнаў, Аляксандр Валадзько быў найлепшым напрыканцы лета, Аляксандр Паўлаў заззяў восенню.

Сёлета БАТЭ ў трэці раз выйшаў у групавы этап Лігі чэмпіёнаў. Каманда па чарзе выйграваla ў македонскага «Вардара», венгерскага «Дэбрэцэна» і ізраільскага «Хапаэля». Ужо на групавой стадыі былі гістарычныя перамогі над «Лілем» і «Баварыяй».

У чэмпіянаце пытанні зняты. Але наперадзе застаюцца дзве гульні Лігі чэмпіёнаў. Ужо 20 лістапада на мінскім «Дынама» БАТЭ прыме «Ліль». Нават мінімальная параза гарантуе камандзе Віктара Ганчарэнкі працяг у Лізе Еўропы.

Срэбра чэмпіяната Беларусі заваяваў «Шахцёр». Бронза дастанецца ці мінскаму «Дынама», ці «Гомелю». А магілёўскі «Дняпро» заслужыў на наступны год выступаць у кампаніі наймацнейшых каманд краіны.

**Зміцер Панкавец**

# Алейнікаў выконваў ролю старэйшага прарока, а Вайцюшкевіч — маладзейшага

**Памёр вядучы «Гарадка»**
Ілля Алейнікаў.

11 лістапада не стала народнага артыста Расіі, акцёра і тэлевядучага Іллі Алейнікава. Ён вельмі любіў Мінск, куды часта прыязджаў.

Сапраўднае імя артыста — Ілля Кляver, ён нарадзіўся ў Кішынёве 10 ліпеня 1947. Скончыў Маскоўскае дзяржаўнае вучылішча цыркавога і эстраднага мастацтва. Працаваў у Масканцэрце і Ленканцэрце. Аднак сапраўднае прызнанне прыйшло, калі ў эфір выйшла перадача «Гарадок», якую Алейнікаў вёў разам з Юрыем Стаянавым.

Ілля Алейнікаў быў шматгранны асобай. Ён пісаў кнігі, здымаўся ў кіно. Чатыры гады таму ён напісаў і паставіў мюзікл «Прарок». Пастаноўка прайшла ў Беларусі, і на адну з галоўных роляў быў запрошаны музыка Зміцер Вайцюшкевіч.

«Алейнікаў быў вельмі непасрэдным чалавекам, — узгадвае Вайцюшкевіч. — Памятаю, сядзелі мы побач на нейкай рэпетыцыі, нешта ў мяне не атрымлівалася, Алейнікаў пытаецца: у чым справа? А я кажу: «На мяне ваш аўтарытэт ціснe». «Тады пашлі мой аўтарытэт куды далей!» — адказаў Алейнікаў».

Чаму Алейнікаў вырашыў ставіць «Прарока» ў Беларусі? Зміцер Вайцюшкевіч мяркуе, што акцёру паабяцалі падтрымку, але ў выніку ўсю пастаноўку прыйшлося праплочваць самастойна.

«У спектаклі мы былі двума рознымі «прарокамі», — кажа Вайцюшкевіч. — Ён выконваў ролю старэйшага, я — маладзейшага. Як акцёр ён быў значна лепшы».

Па просьбе «НН» акцёра ўзгадаў Аляксандр Ціхановіч, які таксама працаваў над «Прарокам».

«З Іллёй мы сябравалі 30 гадоў. Гэта быў не толькі неверагодна таленавіты акцёр, але і незвычайны кампазітар. Той самы «Прарок», — кажа Аляксандр Ціхановіч. — Калі ён прыязджаў у Мінск, часам спыняўся ў нас дома, ці мы ў Пецярбургу заўжды прыходзілі да яго ў госці, ён сядаў за раяль і спяваў свае новыя песні. У нашым рэпертуары ёсць песні Алейнікава. Мне падаецца, што зараз кожны гарадок Расіі і Беларусі ў жалобе па гэтым звышталенавітым чалавеку, які падарыў нам столькі радасці».

**Юрась Ускоў**


LIVEJOURNAL.COM

**Ілля Алейнікаў (другі злева) з Аляксандрам Ціхановічам і Ядвігай Паплаўскай падчас мінскай рэпетыцыі «Прарока».**

# Дырэктар ЦРУ сышоў у адстаўку, бо здраджваў жонцы



**Пэтрэус разам з каханкай.**

**Нечаканая навіна**
з Амерыкі: знакаміты генерал Дэвід Пэтрэус павініўся.

Клінтан таіўся, Мітэран таксама, Саркazі не раз жаніўся, у нашым кутку Еўропы ў гэтым плане робіцца ўвогуле немавед што, а кіраўнік самай моцнай разведкі свету сышоў у адстаўку, бо прызнаўся, што здраджваў жонцы.

Генерал Дэвід Пэтрэус, з якім звязваюць поспехі амерыканскага войска ў Іраку і Афганістане пасля перыядаў няўдач, скончыў сваю кар'еру. Між тым паджараму аўтару антыпаўстанцкай стратэгіі Surge ў Іраку прарочылі нават і прэзідэнцкае крэсла.

60-гадовы Пэтрэус паклаў заяву пра сыход на стол Абамы 9 лістапада, праз суткі пасля пераабрання Абамы прэзідэнтам. «Пасля 37 гадоў шлюбу я прыдурэў, — напісаў Пэтрэус, — і завязаў раман па-за шлюбам. Такія паводзіны недапушчальныя ані для мужа, ані для кіраўніка арганізацыі як у мяне».

**Адам Галуза**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Пра мастацтва і кацянё

Раз на год, а менавіта 7 лістапада, аднекуль з падсвядомасці ўзнікае хваравітая патрэба шукаць адказ на пытанне, як ставіцца да Кастрычніцкай рэвалюцыі: святкаваць ці не святкаваць, адзначаць ці не адзначаць...

З уладамі ды нашчадкамі ўсё больш-менш зразумела: шаманіць ля помніка Леніну — іх святы, зацверджаны найвысачэйшым указам, абавязак.

Незразумела — больш, чым менш — з прагрэсіўнай грамадскасцю. «Можна не святкаваць, — дазваляе мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі, — а вось адзначыць варта». З двух прычынаў: «...здабылі незалежнасць Фінляндыя і Польшча, краіны Балтыі, а ўрэшце, праз 74 гады, прайшоўшы стадыю сацыялістычных эксперыментаў, і Беларусь...»; «...рэвалюцыя спарадзіла і вялікае мастацтва. Перакананы — феномен Віцебска, узлёты Шагала, які багоміў тую рэвалюцыйную віхуру да канца дзён, і Малевіча былі б немагчымыя...»

Наўрад ці трэба нагадваць, якім чынам здабылі незалежнасць пералічаныя краіны, каб замест пляскання ў далоні адчуць смутак і жах.

Аднак, з развагаў спадара Харэўскага вынікае, што адзначаць Кастрычніцкую рэвалюцыю ўсё ж варта са знакам плюс.

Такі вось нечаканы адказ на вядомы цяжкі выбар, што ці каго найперш ратаваць з полымя: вялікі твор мастацтва ці кацянё...

Між тым, у Мінску ёсць месца, дзе мастацтва і «кацянё» спалучаюцца ў безвыніковай дасюль спрэчцы: што рабіць з помнікам завадатару «каласальнага гістарычнага перавароту», ад якога «здабылі незалежнасць...» і «нарадзілася вялікае мастацтва»?

І тое праўда: з аднаго боку — мастацтва, з іншага — «сусветны пажар»...

З гэтай нагоды ўзгадваецца забытая старонка з найноўшай беларускай гісторыі: неўзабаве пасля жнівеньскага путчу ў Маскве Мінгарсавет збіраўся дэманціраваць манумент, а замест яго стварыць «скульптурную кампазіцыю», якая стала б «сімвалам імкнення беларускага народа да свабоды і незалежнасці».

Я памятаю, як напярэдадні гудзеў на плошчы распалены народ, як збіраліся подпісы — хто за помнік, хто супраць. Людзі таўкліся вакол агітатараў, спрачаліся да хрыпаты, нават хапалі адзін аднаго за грудзі. Раз-пораз з натоўпу чуліся воклічы «Такіх страляць трэба!», звернутыя да найбольш заўзятых прадстаўнікоў варожых бакоў. Што наўрад ці можна было лічыць сімвалам імкнення да свабоды, затое доказна сведчыла аб наяўнасці Леніна «в башке» і нагана, хай сабе ўяўнага, у руцэ...

**Якая рука ўзнята ў Ілліча — правая ці левая?**

У руцэ, якую, як некалі сталіністы на Сталіна, падняли ў «бягучы момант» на Леніна «верные ленинцы». Але ж хуценька схамянуліся...

Між тым, сам помнік Леніну дзесяцігоддзямі займаў у будзённым мінскім жыцці толькі архітэктурнае месца — талентам Лангбарда і Манізера літаральна ўлітаваны ў цяжкаваты канструктывізм Дома ўрада. Сёння, праўда, шкляны пухір пасярод плошчы сапсаваў стрыманы дзяржаўны ландшафт. Але што тычыцца помніка, то мінчукі ў масе сваёй падчас БССР не адчувалі да яго нейкіх асаблівых пачуццяў. Нешта не згадваю, каб хтосьці добраахвотна ўскладаў да яго кветкі — рытуальныя паднашэнні не ў лік. Да помніка прызвычаіліся, абыякавасцю абараняючыся ад удзелу ў крывадушным ідалапаклонстве, што ладзілася і па сёння ладзіцца напаказ.

Часам антыгуманная сутнасць гэтай паказухі выяўляла сябе самым абсурдным чынам. Не адно пакаленне былых студэнтаў гістфака, які пэўны час выходзіў вокнамі на плошчу і манумент, прайшло праз езуіцка каверзнае пытанне тагачаснага адмыслоўца па беларускай гісторыі: якая рука ўзнята ў Ілліча — правая ці левая? Амаль ніхто не здольваў адказаць правільна, паколькі правадыр абапіраецца на ўяўную трыбуну двума рукамі. Ну а калі нехта адказваў правільна, прафесар пытаўся, у каторай руцэ Ілліч трымае кепку...

Запытайцеся пра тое ж сёння хаця б у тых, хто працуе ў Доме ўрада — не адкажуць. Затое ўпэўнена, як адначасова сённяшні кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Кабякоў, адзначаць, што «...чалавеку, якому помнік, Беларусь абавязана тым, што яна ўпершыню набыла сваю дзяржаўнасць...»

Дык ці ёсць розніца паміж кастрычніцкім вытокам незалежнасці паводле Харэўскага і дзяржаўнасці паводле Кабякова?

А вось розніца паміж мастацтвам і «кацянём», якое ледзь не згарэла ў «сусветным пажары», ёсць.

Ёсць розніца, калі памятаць аб тым, што дзяржава, створаная ідэалогіяй і катаўніцкай практыкай бальшавізму, паставіла беларускую нацыю ў рэшце рэшт на мяжу гістарычнага выжывання.

Памятаць, каб разумець, чаму сёняшняя дзяржава захоўвае ў сваім календары «чырвоны дзень».

Памятаць, а не адзначаць.

Незалежна ад таго, што вялікі Шагал, народжаны ўсё ж не рэвалюцыяй, а Богам, да скону «багоміў рэвалюцыйную віхуру».

# Віктар Марціновіч:

## Мужчына павінен час ад часу мыцца і галіцца

«Я як быў інтэлігентам, так і застаўся **цiхім батанікам**». Віктар Марціновіч — журналіст, пісьменнік, палітолаг і навуковец. Гутарка пра тое, як выжывалі ў Зялёным Лузе, што самае страшнае ў прафесіі журналіста, пра літаратуру і сапраўдных мужыкоў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Віктар Марціновіч**
Намеснік галоўнага рэдактара «Белгазеты». Выкладчык паліталогіі ЕГУ. Аўтар раманаў «Параноя» і «Сцюдзёны вырай».

« Я не стамляюся здзіўляцца

### Я быў паслухмяным і ціхім, як коцік

Калі я быў малы, матуля захварэла на рассеяны склероз. Гэта хвароба з часам вырубае ўсю нервовую сістэму чалавека і робіць яго непрыдатным для руху. Таму заўсёды ці я, ці бацька былі з матуляй. Адразу пасля школы я бег дадому, каб быць з ёй. І гэта вельмі моцна мяне сфарміравала. Я быў паслухмяным і ціхім, як коцік. Я як быў інтэлігентам, так і застаўся ціхім батанікам, утопленым у кнігі.

### Што 100 гадоў таму, што зараз — адно і тое ж

У школе першыя класы я вучыўся дрэнна. Бо было шмат негуманітарных прадметаў. Але раптам з'явіўся беларускамоўны выкладчык, які пачаў расказваць пра БНФ, і прыкладна з гэтага моманту нешта ў маёй галаве пстрыкнула і мне стала цікава вучыцца. Школа зрабіла вельмі шмат, каб адбіць ахвоту ад беларускай літаратуры і прызвычаіць мяне да думкі, што цікавай можа быць толькі руская літаратура. Але гэта нават добра, бо я адкрыў Гарэцкага, Дуніна-Марцінкевіча і Купалу, калі я быў ужо сталым чалавекам, а не падлеткам. Калі чытаеш Гарэцкага, то разумееш, што 100 гадоў таму, што зараз — усё адно і тое ж, і краіна не змянілася.

### Дзікі Захад мы ўжо прайшлі

У мяне стандартная для беларусаў сітуацыя, калі маці каталічка, а тата з усходняй Беларусі і ён праваслаўны. Мая маці з Ашмянаў, і я там нарадзіўся, правёў першыя гады жыцця. У бацькоў яшчэ не было хаты ў Мінску, і я жыў па вёсках. Маці была доктаркай. Яна скончыла медыцынскі інстытут, адразу нарадзіла мяне і захварэла. Яна ведала, чым скончыцца яе хвароба. А тата быў інжынерам, які па класічнай беларускай схеме ў 1990-я займаўся бізнэсам і рабіў усё тое, што можна пагладзець у «Бумеры». Калі ён расказвае пра 1990-я, пра тое, як ад бандытаў хаваўся, я разумею, што дзікі Захад мы ўжо прайшлі, былі і кулямёты, і рэвальверы, і сапраўдная прага да жыцця. За тое, каб застацца жывым, трэба было біцца.

### Бог стварыў гэты свет і кудысьці дзеўся

Па веравызнанні я каталік, таму што каталікоў вельмі моцна прасуюць у гэтай краіне. Я каталік асэнсавана, я бываю ў касцёле. Мне падабаецца каталіцызм хоць бы тым, што ў касцёле я адчуваю прысутнасць Бога.

### Хакей без асалоды

Я гуляў у хакей, у мяне нават шнар каля вока застаўся, які я атрымаў клюшкай. Хаця асалоды ад гульні не атрымліваў. Проста бацькі разумелі: каб жыць у Зялёным Лузе, вучыцца ў школе №171, трэба валодаць пэўнымі ўяўленнямі пра баявыя навыкі.

### Тата лічыў, што я магу быць добрым фізікам

Бацька мне казаў, што не трэба быць журналістам. На прыкладзе нашай коткі ён сцвярджаў, што журналіст — гэта той чалавек, які да таго моманту, як котка пасрэ, ужо павінен разбіць яе лайно на кавалачкі і прааналізаваць. Мой тата лічыў, што я магу быць добрым фізікам, але ж я ягоных парадаў не пачуў. Я пішу з 12 гадоў, спачатку дзённікі, потым нейкія гісторыі.

### Ад турмы ў нашай прафесіі нельга заракацца

Вельмі вялікай школай для мяне была першая позва ў суд. Я быў адным з першых журналістаў, які атрымаў позву па абароне гонару і годнасці. Гэты суд быў і вопіс маёмасці, было вельмі складана псіхалагічна. Я тады зразумеў, што і як трэба пісаць. Трэба адказваць за кожнае сваё слова. Ад турмы ў нашай прафесіі нельга заракацца. Мы, як бандыты ў 90-х: кожны дзень рызыкуем.

### Я з другога ці трэцяга эшалона

Пералік журналістаў у Беларусі з вялікай літары даволі кароткі, усе гэтыя людзі ўражваюць сваёй смеласцю. Ірына Халіп, Света Калінкіна, Андрэй Пачобут (ён проста Чак Норыс у нашай журналістыцы). А я з другога ці трэцяга эшалона. Сярод людзей, якія хутка ўзляцелі, я магу адзначыць Гудзіліна.

### Кава

Мой дзень пачынаецца з кавы, якую я п'ю каля рэдакцыі. Гэта не самая выкшталцоная кавярня, яе трымаюць простыя пацаны.

### Добрыя вандроўкі развіваюць людзей, як кнігі

Я знаходжу сэнс жыцця, каб вандраваць па Беларусі ці па свеце. Добрыя вандроўкі развіваюць людзей, як кнігі. Турыст едзе адпачываць, а трэба не адпачываць, а спазнаваць іншыя бакі жыцця.

**Эміграцыю без трагедыі я не разумею і не прымаю »**

У вандроўцы ты разумееш, што існуюць дзве самыя істотныя рэчы — гэта світанак і заход.

У маёй памяці застаўся прыклад з апошняй вандроўкі ў В'етнам. У Хаяне я сустрэў дзеда, які пэўны час жыў у будысцкім кляштары. І ён расказаў мне дзіўную рэч, што розум чалавека пры рэінкарнацыі сыходзіць разам з чалавекам, а сэрца застаецца. І што трэба жыць сэрцам, бо яно чуе, што трэба рабіць, а што — не. Сэрца расце разам з намі, з кожным добрым учынкам, які мы здзяйсняем.

### Трэба бестселер

Беларусь чакае бестселер. Але для таго, каб кніга стала бестселерам, трэба вынайсці не сюжэт, не мову, а падыход да чытача. Нам больш за ўсё бракуе разумення таго, як на беларускай ці расейскай мове стварыць нейкі тэкст, які б уся Беларусь раптам набыла ці спампавала.

### Трэба, каб цябе пёрла

Калі нешта надакучыла і жыццё ўжо не падаецца цудам, то праблема толькі ў табе. Трэба, каб цябе заўсёды пёрла. І калі ты працуеш у офісе і табе нецікава жыць, дык набудзь алей і пачынай займацца жывапісам. У такой краіне, як Беларусь, праз два гады ты станеш першым.

### Я заблытаўся ў канструкцыі «Будаваць сям'ю»

Працэс вызначэння жыццёвых прыярытэтаў не спыняецца ніколі. Зараз яны размеркаваныя так: 1) мая пісаніна, 2) маё выкладанне, 3) навука. А асабістае жыццё існуе паралельна з гэтымі працэсамі. У мяне ёсць асабістае жыццё. Нармальны чалавек, а не тэлевізійная зорка пра гэта не расказвае. Я заблытаўся ў канструкцыі «Будаваць сям'ю». Для мяне свет пачуццяў з'яўляецца больш істотным, чым свет кар'еры. Я кожную хвіліну жыву ўласнымі пачуццямі, у тым ліку да чалавека, які для мяне дарагі. Усё астатняе прадаецца.

### Эміграцыя — гэта трагедыя

Час ад часу, асабліва калі вяртаешся аднекуль здалёку, дзе нябёсы блакітныя, а мора цёплае, узнікае жаданне ўсё кінуць і з'ехаць. Але я занадта моцна імкнуся пакінуць след пасля сябе, дасягнуць чагосьці. У мяне ёсць досвед двухгадовага жыцця ў Літве, я добра ведаю, што такое эміграцыя, і мне гэта не падабаецца. Для таго, каб нешта зрабіць, трэба жыць тут. Я — гэта мова. Мне трэба быць тут, мне трэба размаўляць на рускай і беларускай мове. Калі я з'еду ў іншае месца, проста загіну. Гэта наша непаўторная шэрасць. У нас у слоўніку павінна быць шмат слоў для перадачы шэрага колеру. Наш шэры колер вельмі высакародны. Я не ведаю ніводнага шчаслівага эмігранта. Эміграцыю без трагедыі я не разумею і не прымаю. Я не разумею, калі чалавек едзе ў іншую краіну па грошы ці дзеля таго, каб змяніць будучыню. Тут таксама ёсць будучыня і вельмі добрая, вельмі высакародная.

### Я не карыстаюся ніякай парфумай

Бруд для мужчыны не праблема, пах — праблема. Калі яго няма, то ўсё нармальна, ты нармальны пацан. Я лічу, што мужчына павінен час ад часу мыцца і галіцца. Калі чалавек пачынае выкарыстоўваць розныя крэмы, то ў мяне ўзнікае шэраг пытанняў да яго. Я не карыстаюся ніякай парфумай. Адзін знаёмы дыпламат расказаў мне пра кодэкс гонару замежных дыпламатаў, якім забаронена карыстацца парфумай. Калі ты пырскаешся нейкім пахам, ты пачынаеш выглядаць як клішэ, якое створана іншымі. Мне падабаецца, як пахне жанчына, падабаецца, як пахне жаночае цела, і не лічу, што яго трэба замяняць нейкай парфумай.

### Трэба гнаць ад сябе думкі, нібыта ты ўсё ведаеш

Трэба гнаць ад сябе думкі, нібыта ты ўсё ведаеш. Я не стамляюся здзіўляцца. Увесь час я чымсьці здзіўлены, ці зачараваны, ці ўзрушаны.

**Вольга Гарапучык**

# Жонка Данькова: Мужа заказалі, цяпер рыхтуюцца забраць бізнэс

Наталля Данькова не верыць што муж **пакрываў прастытуцыю**.

«Ён жа не дурань, каб мець бізнэс у цэнтры горада і рабіць сабе гадасці», — Наталля верыць у невінаватасць мужа.

«Пад замову ўсё зрабілі». — расказала Наталля Данькова. Пасля затрымання мужа ёй давялося ўзначаліць бізнэс. — Мы па-ранейшаму працуем. Але пастаянна прыходзяць людзі, разглядаюць будынак, хочуць забраць. А хто — не ведаю, яны не прадстаўляюцца, не даюць ніякіх звестак. Я не ведаю, што будзе далей. Але павінен перамагчы здаровы сэнс».

Пасля таго як у Dankoff Club (казіно, рэстаран, спа-цэнтр, стрыптыз-клуб) двойчы правялі вобшукі, пачаліся масавыя звальненні. «Пакінула працу палова калектыву. Як іх запрашалі на «сумоўе» наколькі разумею, гэта не допыт быў, людзі больш не вярталіся на працу. Ім, відаць, казалі, што Юрый Пятровіч будзе сядзець, а перспектыў у клуба няма — зачыніцца».

Пасля вобшукаў прыязджала яшчэ і міліцыя Маскоўскага раёна. Два дні прасядзелі ў холе клуба ў засадзе. Збіраліся затрымаць геяў: па іх інфармацыі, там павінны былі збірацца прадстаўнікі сэкс-меншасцяў. Але нічога падобнага не адбылося, і міліцыянты з'ехалі.

Юрыя Данькова затрымалі 4 верасня. З гэтага часу ён знаходзіцца пад вартай. Жонцы спатканне з ім не дазваляюць. Бізнэсоўцу абвінавачваюць у тым, што з 2006 прадстаўляў памяшканне ў клубе для заняткаў прастытуцыяй.

У канцы жніўня затрымалі мастацкага кіраўніка і адміністратара Dankoff Club. Справу завялі спачатку на іх, а ўжо праз тыдзень арыштавалі і ўладальніка клуба. Пагражае ім ад сямі да дзесяці гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці. Расследаванне працягнута да 22 снежня.

**Сяргей Макарэвіч**



Да будынка Dankoff Club ужо прыглядаюцца іншыя бізнэсоўцы.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сям'я Даньковых разам. У цэнтры — Юрый.

СВЯТАСЛАЎ ЗОРКІ

**Шматдзетны бацька**

Юрый Данькоў — бацька чацвярых дзяцей: трох дачок і сына. Старэйшая, Юлія, вучыцца ва ўніверсітэце ў Вялікабрытаніі на пластычнага хірурга. Насця сёлета скончыла гімназію і паступіла ў юрыдычны каледж БДУ. Георгій і Еўфрасіння навучаюцца ў адной са сталічных гімназій.

# На Навагрудчыне адстрэльваюць дзікоў

Ветслужба кажа: **маніторынг трыхінелёзу**. Паляўнічыя: афрыканская чума.

У адстрэле ўдзельнічаюць як мясцовыя паляўнічыя, так і іх калегі з суседніх раёнаў. «Збіраюць групы паляўнічых для адстрэлу дзікоў. Цяпер каля возера Свіцязь асноўныя падзеі адбываюцца», — расказаў «НН» паляўнічы.

Па яго словах, масавы адстрэл нібыта наладзілі пасля таго, як выявілі дзіка, хворага на афрыканскую чуму.

У навагрудскім раённым аддзяленні Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў (БТПіР) пацвердзілі інфармацыю пра адстрэл дзікоў, але прычыны назвалі іншыя: «Праводзіцца маніторынг трыхінелёзу па прадпісанні ветслужбаў».

Забітых дзікоў адвозяць у лабараторыі Навагрудка, Гродна і Мінска. «Наша справа — адстрэл, усё астатняе высвятляць ветэрынары».

«Маніторынг трыхінелёзу — гэта толькі адна з прычынаў», — патлумачылі ў Навагрудскай раённай ветэрынарнай станцыі.

«Акрамя гэтага, трэба ўлічваць неспрыяльную эпізаатычную сітуацыю ў суседніх краінах — Украіне, Расіі. А таксама рэзкі рост папуляцыі дзікоў у рэгіёне. Дзікоў шмат, і яны шкоду робяць, найперш у кукурузе і бульбе».

Словы паляўнічых пра заражэнне дзікоў афрыканскай чумой у ветстанцыі катэгарычна абверглі.

У лютым 2012 у Навагрудскім раёне ў вёсцы Нязнанава ветслужбы канфіскавалі ў мясцовых жыхароў свіней, забілі іх і спалілі. Інфармацыя трапіла ў прэсу, з'явіліся чуткі пра ўспышку афрыканскай чумы свіней.

Афіцыйна дзеянні ветслужбы ў Нязнанаве назвалі «рэгіянальнымі вучэннямі ў рэжыме максімальна набліжанай да рэальных умоў абстаноўкі, з прымяненнем эфекту нечаканасці і адпрацоўкай усіх канкрэтных дзеянняў і прафілактычных мерапрыемстваў». Выпадак у Нязнанаве меў шырокі розгалас у краіне.

**Сямён Печанко**



**Трыхінелёз**

паразітарнае захворванне, якое выклікаюць круглыя чэрві трыхінелы. Чалавеку перадаецца з мясам свойскай свінні або дзіка, а таксама пры апрацоўцы жывёльнай скуры. Каб пазбегнуць заражэння, трэба правільна апрацоўваць мяса.

Гатаваць яго пры ўнутранай тэмпературы прадукту не ніжэйшай за 74 градусы. Можна вымаразіць мяса: пры тэмпературы —20 градусаў дастаткова 3 дні, пры —15 — не менш за 20 дзён.

Афрыканская чума свіней чалавеку не шкодзіць. Але яна вельмі заразная: косіць свінства падчыстую, дзе толькі завядзецца.

**Ад 125 да 760€**

Паводле сайта «Паляванне ў Беларусі», на сёння колькасць дзікоў на Навагрудчыне складае каля 135 асобін.

Паляванне на дзіка ў Беларусі каштуе ў залежнасці ад узросту жывёліны і даўжыні іклаў. Дзік вагой да 50 кг каштуе ад 125€. Самец зікламі даўжынёй ад 200 мм і больш каштуе ад 760€.

**Фотафакт**



**31 кастрычніка ў падземным пераходзе станцыі метро «Маладзёжная» ў Мінску малады чалавек напаў на дзяўчыну — спрабаваў яе душыць шалікам. Гэта зафіксавала камера відэаназірання. Нападніка адшукалі. Ім аказаўся 15-гадовы аршанец, які раней перыядычна прыязджаў у сталіцу прасіць міласціну. Але на гэты раз вырашыў адабраць сумачку ў дзяўчыны. Крымінальная справа заведзеная па артыкуле «Хуліганства».**

## Сцісла

### Дэпартавалі за каноплі

Замежны студэнт з Іарданіі быў дэпартаваны з Мінска на радзіму за распаўсюджванне наркотыкаў. Як высветлілася, трэцякурснік вырошчваў каноплі ў шафе свайго інтэрнацкага пакоя, а затым іх прадаваў. Іарданец таксама аштрафаваны на 20 млн рублёў.

### Загарэлася на рэпетыцыі фаер-шоу

Падчас трэніровачнага выступу з элементамі фаер-шоу на 15-гадовай дзяўчынцы загарэлася адзенне. З апёкамі I—III ступеняў дванаццаці працэнтаў паверхні цела яна шпіталізаваная. Пацярпелая — вучаніца адной са сталічных школ.

### Па-самурайску ўскрыў сабе грудзі

П'яны маладзечанец стукнуў нажом сабе ў грудзі. Зрабіў гэта 27-гадовы мужчына на вачах у сям'і. Прычына такога ўчынку не называецца. З пашкоджаным левым лёгкім ён шпіталізаваны. Праводзіцца праверка.

### Смерць у навушніках

29-гадовы мужчына трапіў пад колы дызель-цягніка Калінкавічы—Славечна. Ён слухаў музыку ў навушніках, калі пераходзіў пуці, і не пачуў, як машыніст сігналіў. Загінуў на месцы.

### Скочыў па мабільнік на рэйкі метро

Хлопец падыходзіў да электрацягніка ў мінскай падземцы, трымаючы ў руках мабільны тэлефон. Адзін з пасажыраў закрануў яго, апарат выпаў з рук і зваліўся паміж перонам і цягніком на чыгуначныя пуці. Хлопец не прыдумаў нічога лепшага, як скочыць за тэлефонам, калі цягнік ад'ехаў. Ужывых застаўся дзякуючы таму, што дзяжурная своечасова зняла напругу з кантактнай рэйкі. Маладзёну пагражае штраф за парушэнне правілаў карыстання метро.

### Сутыкнуліся 20 аўто

Дзве аварыі адбыліся на мосце цераз Дняпро ў Магілёве. У адным ДТЗ пашкоджаныя дзесяць машын, у другім — адзінаццаць, у тым ліку аўтобус і маршрутка. А ўсё — галалёд. Ніхто моцна не пацярпеў.

**КМ**

# Лацінка — жывая

**У мінскім метро з'явіліся надпісы беларускай лацінкай. І адразу выклікалі жывыя культурныя дыскусіі.**

Беларуская лацінка ў метро стала прычынай гарачых спрэчак на інтэрнэт-сайце Onliner.by, дзе быў апублікаваны своеасаблівы «тэст-драйв» новых схемаў. Іх выпрабоўвалі на амерыканцу Скоту Крыстафэрсану, які гуляе за баскетбольную каманду «Цмокі-Мінск». І носьбіт англійскай мовы, не змог нават правільна прачытаць лацінічныя назвы станцый.

Памылка рэпарцёра «Анлайнера» была ў тым, што выбарка падобнага «эксперыменту» не можа складацца з аднаго чалавека. Дый англійская мова — адна з нешматлікіх, графічная сістэма якой заснаваная на лацінскім алфавіце без дыякрытычных знакаў.

Галоўны інжынер Мінскага метрапалітэна Георгій Ткач кажа, што стаміўся ўжо аргументаваць, чаму назвы ўсіх станцый напісаныя беларускай лацінкай. Ён расказаў, што ёсць пратакол № 9 паседжання тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў ад 4 кастрычніка 2012. «Станцыі метро і вуліцы — гэта геаграфічныя аб'екты, і перадаваць мы іх можам толькі ў адпаведнасці з тымі патрабаваннямі, якія вылучае тапанімічная камісія», — кажа сп.Ткач. У метрапалітэне кажуць, што нічога мяняць не збіраюцца.

Большасці моваў запазычаных лацінскіх літараў было недастаткова, таму яны стваралі новыя з дапамогай рысачак і «гачкоў» над літарамі. Такія сімвалы выкарыстоўваюцца ў французскай, нямецкай, шведскай, нарвежскай, чэшскай, ісландскай, літоўскай... Лягчэй пералічыць мовы, у якіх гэтых сімвалаў няма.

Лацінка — не праблема для замежнікаў. Лацінка — гэта, на жаль, праблема, у першую чаргу, для некаторых беларусаў.

Не могуць зрабіць нечытальнай беларускую лацінку чатыры літары (č, š, ŭ, ž) ды адзін знак (нахільная рысачка зверху, якая пазначае мяккасць зычнага). Цікава, колькі часу патрабуецца чалавеку, каб запомніць правілы чытання чатырох літараў?

З уласнага досведу скажу: каб вывучыць абсалютна незнаёмыя арабскія літары падчас знаходжання ў Ліване, мне спатрэбілася тры гадзіны.

Тое, што замежнікі падчас знаходжання ў Беларусі не змогуць вывучыць чатыры літары, падаецца зусім малаверагодным, тым больш турыстам уласціва цікавіцца мясцовым. Галоўнае — сістэматычна выкарыстоўваць лацінку пры запісах геаграфічных назваў, а таксама ў картах.

**КХ**




**Афіша Купалаўскага тэатра да пастаноўкі «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл» была выкананая на лацінцы.**

# Што такое беларуская лацінка?

| Кірылічны сімвал | Сімвал на лацінцы | Кірылічны сімвал | Сімвал на лацінцы |
|---|---|---|---|
| А | A | Р | R |
| Б | B | С | S |
| В | V | Т | T |
| Г | H | У | U |
| Д | D | Ў | Ŭ |
| Е | Ie<br>Je | Ф | F |
| Ё | Io<br>Jo | Х | Ch |
| Ж | Ž | Ц | C |
| З | Z | Ч | Č |
| І | I | Ш | S |
| Й | J | Ы | Y |
| К | K | Э | E |
| Л | L | Ю | Iu<br>Ju |
| М | M | Я | Ia<br>Ja |
| Н | N | ' | ' j |
| О | O | Ь | ' (гл. заўвагі) |
| П | P | | |

**Беларуская лацінка падобная да чэшскай. У дасавецкі час такі правапіс шырока ўжываўся.**

Лацінкай выдавалі свае кнігі Янка Купала і Францішак Багушэвіч. «Наша Ніва» выходзіла ў дзвюх версіях: лацінкай і кірыліцай да 1911.

Газеты і часопісы лацінкай выдавалі беларускія каталікі. Пры саветах беларускую лацінку забаранілі. Але шмат хто з інтэлектуалаў і цяпер карыстаецца ў прыватных запісах менавіта лацінкай.

Пераход на лацінку з арабічнага ці кірылічнага правапісаў у розны час ажыццявілі Турцыя, Азербай-джан, Узбекістан, Малдова, Чарнагорыя. Гэта быў такі разрыў шаблона, цывілізацыйны выбар.

У Беларусі лацінка вяртаецца ў публічную сферу паволі.

Гэта частка нацыянальнага «я»: каб беларускія геаграфічныя назвы і імёны ўласныя беларусаў на іншых мовах перадаваліся са свайго нацыянальнага, а не русіфікаванага варыянта.

У тым ліку і ў мінскім метро з'явіліся схемы, на якіх назвы станцый метро дублююцца на беларускай лацінцы.

Для многіх гэта нязвыкла: а праблема ў тым, што школьная адукацыя ў нас кепская, і лацінкі не вучаць. Калі б лацінка хоць трохі вывучалася ў школьным курсе беларускай мовы, не было б здзіўлення. Пакуль лацінічнае пісьмо не вывучаюць у школах, яно не будзе ўжывацца шырока.

Варта адзначыць, што норму лацінічнай транскрыпцыі беларускай мовы зацвердзіла Акадэмія навук.

Аргументы, што такі варыянт замежнікам нязвыклы, несур'ёзныя. Кожная нацыя мае свой правапіс, адпаведна сваёй гістарычнай традыцыі. Чэхі, славакі, літоўцы, латышы, сербы, харваты... Усе яны маюць літары з гачкамі ці крэскамі.

А ўзяць французаў: ці ж яны перажываюць, што ў слове Renault пішацца 7 літар, а вымаўляецца 4 гукі?

Нормы беларускай лацінкі былі апублікаваныя Акадэміяй навук у газеце «Звязда».

Унармаваны Акадэміяй варыянт грунтуецца на векавой традыцыі, але адрозніваецца ад таго, што быў прапанаваны калісь Вацлавам Іваноўскім.

Гісторык Анатоль Сідарэвіч лічыць, што ў цэлым новы варыянт беларускай лацінкі цалкам прымальны.

«Толькі што літары G не хапае для правільнай перадачы гучання замежных уласных іменаў», — зазначаў гісторык.

Мовазнаўца Зміцер Саўка кажа, што вяртанне беларускай лацінкі ва ўжытак — справа неабходная. «Гэты працэс варта падтрымліваць. Лацінка перспектыўная. Добра, што дзяржава пайшла на прававое замацаванне статусу нашай лацінкі. Гэта вельмі разумны крок», — мяркуе ён.

**Мікола Бугай**

**Каментар**

# Фестываль з расейскімі субтытрамі

У Мінску «адгрымеў» XIX «Лістапад». Мінчукі і госці сталіцы спраўна прыходзілі ў залы кінатэатраў, каб папесціць сябе добрым некамерцыйным кіно. Адзіная рэч, што бянтэжыла — фестываль не быў ні мінскім, ні беларускім.

Першыя радкі субтытраў парасейску прынеслі пачуццё разгубленасці, яно не пакідае і цяпер. Беларускай у «Лістападзе» засталася бадай што назва ды бюлетэні для галасавання. Субтытры, гнюсавы адналосы дубляж выдатнейшай польскай стужкі «Ровар майго бацькі» — усё па-расейску. Па-расейску прэзентуюць фільмы, па-расейску перакладаюць высокіх гасцей.

Чаму для фестывалю, які спансуецца дзяржаваю, нельга было зрабіць беларускія субтытры? Гэта ж не працаёмка і танна . Усё адно фестывальнае кіно — кіно жывых інтанацый ды белых радкоў знізу.

«Лістапад» мінуў. Моцныя фільмы будуць ганарыцца прызамі Мінскага міжнароднага кінафестывалю. Але ці могуць гэтыя стужкі ганарыцца прызамі беларускага кінафестывалю?.. У свеце шмат выбітных фестываляў кіно. «Лістапад» мае ўсе шанцы стаць «візітоўкай» Мінска ды Беларусі. Але для гэтага ён павінен стаць сапраўды нацыянальным.

**Кірыла Хілько**

**Сцісла**

**У Астане адкрыты Беларускі цэнтр мовы і культуры**

Ён будзе дзейнічаць пры Еўразійскім нацыянальным універсітэце імя Льва Гумілёва.

**Купалаўскі можа адмовіцца ад удзелу ў тэатральнай прэміі**

Пра гэта заявіў мастацкі кіраўнік тэатра Мікалай Пінігін. Рэжысёр растлумачыў, што ўся трупа ў гэты час знаходзіцца на саракадзённых гастролях у Францыі. Такая дзіўная сітуацыя склалася з-за пераносу тэрмінаў правядзення прэміі з кастрычніка на лістапад.

**У Мінску адбудзецца фестываль JazzinMinsk**

Ён пройдзе ад 19 да 22 лістапада. У фестывалі возьмуць удзел вядомыя джазавыя музыканты з ЗША, Бразіліі, Ізраіля, Англіі, Германіі, Польшчы, Італіі, Расіі і Беларусі. Канцэрты будуць праходзіць на дзвюх сцэнах — у Палацы прафсаюзаў і ў Джазклубе Яўгена Уладзімірава ў Палацы Рэспублікі. Цана білетаў на кожны з фестывальных дзён вагаецца ад 50 да 450 тысяч рублёў.

**СМ**

# Справа Arche: дух Бэндэ і Абэцэдарскага

У краіне аднавілася патрэба ў літаратурным і навуковым даносе. Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

Літаратуразнаўца Ціхан Чарнякевіч, пабачыўшы выпуск часопіса Arche, прысвечаны беларускай гістарыяграфіі 1920-х, загарэўся ідэяй зрабіць нумар, у якім былі б прадстаўленыя крытыкі і літаратуразнаўцы міжваеннага часу. Я ж спытаўся ў свайго маладога земляка, ці будзе ў выпуску прадстаўлены такі спецыфічны жанр, як *публічны* літаратурна-палітычны данос. Звычайна такія даносы ўчыняліся ў форме артыкулаў ці рэцэнзій. «Разносілі» за ідэйны змест твораў, за адсутнасць класавай і партыйнай пазіцыі (пільнасці). Так Уладзімір Сядура даносіў на Юлія Таўбіна, Алесь Кучар і Аркадзь Куляшоў — на Максіма Лужаніна, Лукаш Бэндэ — на Алеся Кучара...

Мінулае згадваецца ў сувязі з падзеямі вакол Arche. Пагром часопіса — гэта спроба спыніць развіццё незалежнай гуманітарнай думкі. Цягам апошніх 18 гадоў дзяржава настойліва дэманстравала варожасць да беларускай гуманістыкі. Гэта і закрыццё Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ды Гуманітарнага ліцэя, і пагром часопіса «Крыніца», і высяленне з акадэмгарадка рэдакцыі Беларускай Энцыклапедыі, і зліццё акадэмічных інстытутаў літаратуры, мовы, мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, і пазбаўленне працы не аднаго і не двух гуманітарыяў...

**Анатоль Сідарэвіч**

Гісторык. Даследуе гісторыю беларускага руху (1900—1939). Падрыхтаваў да выдання некалькі кніг твораў Антона Луцкевіча «Да гісторыі беларускага руху» (2003, перавыданне 2010), «Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва» (2006), «Барацьба за вызваленне». Сацыял-дэмакрат.

У незалежнай нібыта беларускай дзяржаве няма Інстытута гісторыі Беларусі, няма Інстытута археалогіі і матэрыяльнай культуры, Інстытута сусветнай (ці хоць бы еўрапейскай) гісторыі, Інстытута міжнароднай эканомікі і міжнародных адносін. Мы дажыліся да таго, што акадэмічныя інстытуты ўзначальваюць кандыдаты навук. На ўсіх гуманітарыяў Акадэміі выдаецца адзінадзіны часопіс — «Весці НАН Беларусі. Серыя гуманітарных навук», які выходзіць шэсць разоў на год.

Гонар гуманістыкі ратуюць незалежныя выданні. Генадзь Сагановіч вядзе «Беларускі гістарычны агляд», Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку выпускае тамы «Запісаў», Аляксандр Фядута стаў прамотарам гадавіка «Асоба і час», Беларускае гістарычнае таварыства з дапамогай польскіх уладаў наладзіла выданне «Беларускіх гістарычных сшыткаў». Калі занапаў часопіс «Спадчына», эстафету ў яго падхапіў Arche.

Ён стаў такім выданнем, выпуск якога не хоча і не можа наладзіць сучасная дзяржава: часопісам, у якім публікаваліся працы гуманітарыяў, у тым ліку гісторыкаў, незалежна ад таго, дзе яны працуюць і жывуць. Часопіс стаў месцам навуковых дыскусій, палемікі. Паказальна, што Arche выдаваў і кнігі, падрыхтаваныя ў дзяржаўных установах. Хто ведае, ці выйшаў бы грунтоўны двухтомнік Адама Бабарэкі, падрыхтаваны ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва?

Каментуючы нашэсце падаткавікоў на вечарыну ў Гродне, з якога і пачалася (публічна) «справа Arche», галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў» Барыс Пятровіч сказаў радыё «Свабода»: «Хутчэй за ўсё, гэта адмашка зверху».

У словах Барыса Пятровіча ёсць рацыя. Чыноўнік без загаду начальства не ўзваліць на сябе дадатковы цяжар. Але адмашка адбываецца тады, калі ёсць *данос* знізу.

З моманту, як у нашай краіне з'явілася *дзяржаўная ідэалогія*, аднавілася патрэба ў літаратурным і навуковым даносе. Але вы не ўбачыце ў газетах артыкулаў кшталту тых, якія пісалі Бэндэ і Абэцэдарскі. Гэтыя функцыі перададзеныя не абцяжаранай ведамі тэлевізійнай шпане. Гісторык А, літаратуразнаўца В, палітолаг С лічаць за лепшае чыніць *закрыты*, *вусны* данос, ведаючы, што напісанае застаецца ў архівах.

## Гонар гуманістыкі ратуюць незалежныя выданні

Матывы бываюць розныя. Адны помсцяць апанентам, другія кіруюцца кар'ернарыслівымі меркаваннямі, трэція — не могуць «паступіцца прынцыпамі».

У выпадку з Arche імаверны кожны з матываў. Адных часопіс узяў кіпцем за рабрыну, другім ён стварае псіхалагічны дыскамфорт, трэціх абурае незалежнасцю ў меркаваннях, у чацвёртых выклікае зайздрасць... Важна адзначыць, што галоўны наш чыноўнік кніг, паводле яго прызнання, не чытае, пагатоў не чытаюць такія спецыялізаваныя выданні падаткавікі, а чыноўнікі ДФР, мабыць, толькі цяпер даведаліся пра існаванне Arche. Як ні мяркуй, без даносу людзей, якія лічаць сябе гуманітарыямі, не абышлося. Або даносчык сам мае доступ да вушэй адмінстратараў, або, калі данос прыйшоў ад дробнай сошкі, ён быў аддадзены на заключэнне таму (тым), хто карыстаецца даверам адміністратараў. Так уладкавана сістэма.

Устанавіўшы, што часопіс Arche «падрывае асновы», адміністратары (найбольш верагодна, галоўная ідэалагічная служба краіны) распрацоўваюць сцэнар. І тады гродзенскія падаткавікі даведваюцца, што ў іх горадзе праводзіцца вечарына, на якой прадаюць часопіс і кнігі, і кіруюцца наводзіць парадак. І тады чыноўнікі ДФР робяць адкрыццё: у Беларусі выходзіць часопіс Arche...

Дух Бэндэ і Абэцэдарскага незнішчальны датуль, пакуль у краіне ёсць дзяржаўная ідэалогія, таталітарны або аўтарытарны рэжым. Попыт на літаратурны і навуковы данос знікае разам са знікненнем такога палітычнага рэжыму.

# Беларуская глыбіня. **Час цішыні**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Жыццё і смерць*
*прапанаваў я табе,*
*Дабраславенне і праклящце.*
*Выберы жыццё,*
*каб жыў ты і нашчадкі твае.*
*Другі Закон 30:19*

У дымным ад цыгарэтных выдыхаў умывальніку каменды, пакуль спаласкваў рукі, давялося выслухаць прызнанне аднаго мацёрага «хіміка». Ягоная жонка зацяжарала — не ад яго. Доўга біў. Прымусіў зрабіць аборт — тут жа, у хаце. Вымыў тое, што вырвалі з ейнай маткі, парэзаў, пасмажыў на патэльні і загадаў з'есці. Кажа, давілася слязьмі, але ела, сука.

У Беларусі штогод больш за 30 тысячаў жывых дзетак забіваюць у матчынай нутробе.

У Беларусі за 20 гадоў ад 1990 да 2010 толькі паводле дадзеных Міністэрства аховы здароўя было вынішчана 2,7 мільёна зачатых немаўлятаў.

У Беларусі дзве трэціны сем'яў абмяжоўваюцца толькі адным дзіцём.

**Аборты ўспорваюць Беларусь настолькі ж востра, наколькі скальпель — безабароннае жыццё**

У Беларусі, паводле дадзеных 2012, на 1000 шлюбаў рэгіструецца 509 разводаў... Для тых, хто не дапяў з першага разу: палова сем'яў *развальваецца*.

Тэма абортаў успорвае Беларусь настолькі ж востра, наколькі скальпель — безабароннае жыццё.

Аборт — гэта забойства. Забойства жывога, непаўторнага, бязвіннага чалавека.

Знішчэнне вобразу і падабенства Божага.

Тут нават няма чаго абмяркоўваць — гэта трэба разумець.

І той, хто прымушае, і той, хто вырашае, і той, хто праводзіць аперацыю, — гэта за...

Паслухайце.

Ці ўяўляем мы, што ў маленькай істоты, зачатай у жаночым улонні, ужо праз тры тыдні жыцця б'ецца крапелька — сэрца? Ці ведаем мы, што яму цёпла, калі матуля есць або гладзіць яго; халодна, калі яна на скразняку; блага, калі мама хвалюецца — і невыносна балюча, калі яго, голенькага, безабароннага, рэжуць і рвуць на кавалкі?

Проста ўяві: твая матуля хоча цябе забіць...

У гэтыя дні абмяркоўваецца новы «Закон аб сям'і». Беларускія хрысціянскія дэмакраты настойваюць на ўвядзенні «часу цішыні» — абавязковых гадзінаў для цяжарнай, каб падумаць і адмовіцца ад аборту.

Час цішыні — хвіліна маўчання па тых, хто так і не нарадзіўся. Час цішыні — гадзіна роздуму для тых, хто яшчэ не забіў.

Цішыня... Вы чуеце, як роспачна б'ецца гэтае сэрцайка?

А чуеце, як нема крычыць дзіця, у якога, жывога, павольна і метадычна адразаюць ножкі, ручкі па плечыкі... рассякаюць шыйку?..

Няшчасныя беларусы... Ніякая Расея, ніякі камунізм не здолее так нішчыць беларускую будучыню, як робяць гэта абыякавыя, з выразам каменнага цярпення на твары, тутэйшыя.

Мы.

Царква і касцёл патрабуюць разам: спыніце забойства ненароджаных дзяцей! З таго моманту, як жыццё зачатае, ягонае знішчэнне прынцыпова не адрозніваецца ад крывавага крыміналу або генацыду канцлагераў.

«Толькі б не было вайны» — паўтараюць беларусы, гатовыя апраўдаць усё клопатам пра ўласных дзяцей. Але ціхая і злоцелая вайна з сонямі тысячаў загінулых невінаватых мірных жыхароў кіпіць ва ўлонях беларусак поўнай ходай. У гэтым стагадовым генацыдзе ёсць свае каты, свае халаднакроўныя маньякі, свае безгалосыя ахвяры, свае запырсканыя крывёю месцы бойняў... і толькі абаронцаў жыцця зусім вобмаль.

І Беларусь не ведае сапраўдных герояў гэтай вайны пад сэрцам — ані тых матуляў, якія рашыліся нараджаць са смяротнай рызыкай, ані тых, што памерлі, але далі жыццё дзіцяці, ані простых рыцараў з «Легіёна Марыі» Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі, што б'юцца і моляцца за кожнага ненароджанага, ані віцебскіх праваслаўных братчыкаў, што ходзяць па інтэрнатах медінстытута ды скрозь цыгарэтны дым у твар перакондваюць будучых гінеколагаў, ані евангельскіх вернікаў з Pro-life, *руху за жыццё*, што ўмольна гля-дзяць у вочы маладым у падземных пераходах і ў якіх у руках трапечуць тоненькія паперкі — мімаходзь, не бяруць, не бяруць...

Мы робім выгляд, што нічога такога не адбываецца.

Мы не чуем, як плачуць анёлы.

А пакутлівы выбар у тым, што простая забарона спаронаў і нават крымінальны пераслед за падпольны аборт справы не вырашае — толькі заганяе ўглыб. І робіць разню таемнай і яшчэ больш крывавай.

Цэнтр цяжару — гэта стан грамадства. Калі аборт — гэта *нармальна*, калі няма ўсведамлення факта злачынства, калі і для мужчынаў, і для жанчынаў гэта накшталт «схадзіць, вырваць балючы зуб» — ціхае вынішчэнне нацыі будзе працягвацца.

Таму трэба рабіць крокі. Час цішыні. Забарона рэкламы. Скарачэнне тэрмінаў...

Ціха.

Так і хочацца ім шаптаць, казаць, крычаць: ну паглядзіце вы на вяселле Глеба Лабадзенкі з Танечкай Шапуцькай у вышыванках ды шляхецкіх строях у Нясвіжы, на іхнягa ласкавага малога!.. На светлыя абліччы Мікалая Дземідзенкі і Алесі Раманюк пад залатымі каронамі на вянчанні ў Мёрскім касцёле... На сайт dzietki.org, поўны шчасця па-беларуску! На сям'ю баптыста Сержука Ліцвінкі ў Заслаўі, што, апрача сваіх, бярэ яшчэ і прыёмных дзетак — поўны дом... На маленькага Адама Бокуна, які моліцца «Ойча наш» і ў кожным радку дадае: «... у Беларусі...»

А пакуль мы чытаем, жуём, блукаем у сеціве — з кожнай гадзінай нас, беларусаў, робіцца ўсё менш і менш.

І беларускае атупенне, беларуская безвыходнасць і беларускі адчай будуць толькі нарастаць, пакуль мы не жахнёмся пекла пад нагамі: забіваючы пад сэрцам новае жыццё, мы забіваем у сабе Бога.

*Куплін*

# «Устаў Жылуновіч ды сказаў: я ствару»

4 лістапада споўнілася 125 гадоў ад нараджэння першага кіраўніка Савецкай Беларусі. Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

Казаць, што рэвалюцыю рабілі люмпены і басота, — не зусім карэктна. Карэктней было б сказаць, што рэвалюцыю, якую бальшавікі назвалі сацыялістычнай, рабілі рамантыкі, чыстыя сэрцам людзі. Яны паверылі дэмагогам, якіх больш за ўсё цікавіла ўлада.

* * *

Ва ўяве маладога Яна Скрыгана асобна існавалі Цішка Гартны і Зміцер Жылуновіч.

«Цішка Гартны — паэт, пышнавалосы, тонкі, высокі і стройны, з кволым пявучым голасам; Зміцер Жылуновіч — грузны, мажны мужчына, малагаваркі, з цяжкім паглядам воч, строгі і нават суровы, прывучаны, каб яго слухаліся». Два створаныя фантазіяй маладога пісьменніка вобразы зніклі пасля таго, як Ян Аляксеевіч убачыў рэальнага Жылуновіча-Гартнага, але ўсё ж у нашай свядомасці Жылуновіч-Гартны заўсёды будзе раздвойвацца на палітыка і пісьменніка.

* * *

Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч у сваіх успамінах пра бацьку працытаваў Коласавы словы: мы забылі, калі смяяліся. Ян Скрыган згадваў: «Я ніколі не бачыў, каб Гартны жартаваў, смяяўся, каб у яго быў нейкі другі, не той, што заўсёды, маўклівы настрой».

Я памятаю людзей, якія атрымалі жыццёвую загартоўку ў сталінскі час, і магу сцвярджаць: жорсткія выпрабаванні, маральна-псіхалагічная атмасфера таго часу прывучылі Зміцера Жылуновіча быць зашпіленым на ўсе гузікі, не даваць волю эмоцыям, маўчаць пра тое, пра што нельга казаць уголас.

**Вуліцы імя Жылуновіча**

у Беларусі толькі дзве: у яго родным Капылі і ў Мінску.

* * *

У 1918 годзе выходзілі чатыры беларускія газеты: «Гоман» — у Вільні, «Вольная Беларусь» і «Беларускі шлях» — у Мінску, «Дзянніца» — у Маскве. Паводле інфармацыйнай насычанасці я б пашыхаваў гэтыя газеты ў такім парадку: «Гоман», «Дзянніца», «Беларускі шлях», «Вольная Беларусь».

Што матэрыялы Рады БНР і Народнага Сакратарыята друкаваў «Гоман» — не дзіва. А вось што датычыць «Дзянніцы», дык тут пры чытанні ствараецца дваістае ўражанне. Шчыры Беларус, Стары сацыял-дэмакрат — якіх толькі псеўдонімаў ні было ў рэдактара Змітра Жылуновіча!.. Ён з бальшавіцкіх пазіцый граміў Раду, «здраднікаў працоўнага беларускага народа» і адначасна друкаваў даволі шмат (значна больш, чым Лёсікава «Вольная Беларусь») матэрыялаў і Рады, і Народнага Сакратарыята.

Пішучы ў «Дзянніцы» артыкулы аб неабходнасці самавызначэння Беларусі ў якасці аўтаномнай часткі Расійскай савецкай федэратыўнай рэспублікі, а з другога боку — крытыкуючы Раду і адначасна друкуючы інфармацыю пра жыццё ў непадсавецкай частцы Беларусі, Жылуновіч закладаў у свядомасць чытачоў «Дзянніцы» пастулат незалежнай Беларусі, няхай і савецкай.

Калі ж шыхаваць беларускія газеты 1918-га паводле падачы матэрыялу, дык будзе іншы шыхт: «Гоман», «Вольная Беларусь», «Беларускі Шлях», «Дзянніца». Жылуновіч, мусіць, не здагадваўся, што кожная падзея мае пэўную дату, што ў інфармацыйных матэрыялах трэба пазбягаць ацэнак. Горшыла газету і тое, што Жылуновіч спрабаваў увесці ў норму асаблівасці капыльскай гаворкі, у прыватнасці канчатак —ум: у зялёнум, аб высокум...

* * *

Дзе архіў Жылуновіча?

Патрабаванні беларускіх камуністаў, сфармуляваныя канферэнцыяй беларускіх секцый РКП(б), былі сціплыя: яны хацелі, каб Заходняя камуна называлася Беларуссю і стала аўтаномнай адзінкай у складзе РСФСР. І тут, літаральна назаўтра пасля канферэнцыі, нечаканае рашэнне кіраўніцтва бальшавіцкай партыі...

Вось пераказвае Уладзімір Дубоўка пачутае ад Алеся Чарвякова. Пра сустрэчу ў Леніна. Маўляў, спыталіся: а хто створыць урад новай рэспублікі? І тут устаў Жылуновіч ды сказаў: я ствару. Ведама, Жылуновіч быў лідарам беларускіх камуністычных секцый і меў права сказаць такое. Але ці ў Леніна ён гэта сказаў? І сам Жылуновіч ані словам пра тое не абмовіўся.

Шкада, няма архіва Жылуновіча. А ён у сваіх працах з гісторыі Савецкай Беларусі спасылаўся на дакументы, якія меліся ў яго распараджэнні.

Мусіць, цікавы быў архіў. І небяспечны.

* * *

Стварэнне БССР у вачах бальшавіцкіх лідараў было нічым іншым як перабудовай Аблвыкамзаха. Уяўляю, як Жылуновіча ўразіла вераломства бальшавікоў, калі высветлілася, што ўсе ключавыя пасады ў Часовым урадзе Беларусі прадугледжаныя для байцоў кшталту Мяснікяна, а таксама выявілася, што ў Жылуновіча і Мяснікяна маюцца розныя спісы сяброў Часовага ўрада Беларусі, узгодненыя з усё тым жа Сталіным, і што ўчарашнія працінікі самой назвы «Беларусь» будуць ва ўрадзе пераважаць.

І не запратэстуеш, і не назавеш ашуканцаў ашуканцамі. У бальшавікоў жалезная субардынацыя і дысцыпліна. Арганізацыя, якая ад самага пачатку мела адзнакі крымінальнай групоўкі.



**Родная хата Жылуновіча ў Капылі захавалася дагэтуль. Яна прыватызаваная, але выглядае нежылой.**

**Зміцер Жылуновіч**

(1887—1937). Нар. у Капылі, у сям'і беззямельнага селяніна. Працаваў у мясцовай гарбарні, у Літве, ва Украіне, на заводзе «Вулкан» у Петраградзе. Яшчэ ў Капылі далучыўся да сацыял-дэмакратычнага руху. Аўтар «НН» ад 1908. У 1913 выдае першую кнігу «Песні». Рэдактар беларускай бальшавіцкай газеты «Дзянніца». Першы кіраўнік Часовага ўраду Савецкай Беларусі (1919). Працаваў у наркамасветы, узначальваў Дзяржвыдавецтва БССР, акадэмік. У 1936 арыштаваны. Пасля катаванняў змешчаны ў Магілёўскую псіхіятрычную лякарню, дзе і памёр. Пахаваны на ўскраіне Магілёва.

* * *

Прыехаўшы ў Піцер, малады Зміцер Жылуновіч уладкаваўся на завод «Вулкан», стаў там фрэзероўшчыкам, г.зн. кваліфікаваным рабочым.

Пралетарыят змагаўся за сваё вызваленне. Гэта праўда. І пралетарыят паступова дамагаўся пашырэння сваіх грамадзянскіх і палітычных правоў, паляпшэння свайго жыцця.

Каб мець уяўленне пра тое, які быў матэрыяльны дастатак кваліфікаваных рабочых за царскім часам, я раю маім чытачам і суразмоўцам пачытаць знакамітую аповесць Максіма Горкага «Маці», хоць бы той яе раздзел, у якім пішацца аб першым заробку галоўнага героя, Паўла Уласава.

Сутнасць барацьбы пралетарыяту і яго сацыял-дэмакратычнай партыі заключалася ў тым, каб узвысіць працоўных у матэрыяльным і духоўным аспектах, каб рабочы падняўся да інжынера. (Як жылі за царскім часам інжынеры, чытайце «Блуканні па пакутах» Аляксея Талстога. Колькі пакояў было ў кватэры яшчэ нежанатага інжынера Івана Іванавіча Цялегіна?)

У нас ёсць піцерскі здымак фрэзероўшчыка завода «Вулкан» Змітра Жылуновіча. З кадэцкай (!) газетай «Речь» пад пахай. «Просты савецкі чалавек», які не памятаў царскага часу і насіў ватоўку, зірнуўшы на гэты здымак, мог падумаць, што на ім — калі не буржуй, дык нейкі чыноўнік ці інтэлігент.

Як пачуваўся Жылуновіч, калі, пазбаўлены ўсіх пасад, трапіў у 1930-я на завод імя Варашылава? Дзе атаварваў карткі на прадукты і мануфактуру? Што ён думаў? Не мог жа ён не параўноўваць узровень жыцця кваліфікаванага рабочага за савецкім і за царскім часам...

...Станіслаў Пятровіч Шушкевіч успамінаў: «Неяк восенню 1936 года (незадоўга да арышту. — А. С.) я сустрэў Цішку Гартнага на вуліцы з кошыкам. Ён ішоў прыгорблены і нёс дадому прадукты.

— Хварэю, — казаў ён, — ды і жонка з дачкою крыху занядужалі. А да гэтага яшчэ колькі непрыемнасцей. Некаторыя з тых, хто яшчэ нядаўна хіліўся да мяне, вышукваюць плямы на маім сумленні.

У вачах стамлёнага Цішкі Гартнага стаялі невыказны боль і горыч».

Друкуецца ў скароце. Поўны варыянт чытайце на сайце nn.by

# Крэўская кельма і нервюры

Раскопкі ў Крэве, найстарэйшым замку ВКЛ, працягваюцца нават глыбокай восенню. Піша **Алег Дзярновіч**.

Археолагі вывучаюць Крэўскі замак чатыры дзесяцігоддзі. У 1970—1980-я такія даследчыкі, як Міхась Ткачоў, Алег Трусаў, Ігар Чарняўскі займаліся вывучэннем гэтай найстаражытнейшай кастэлі Вялікага Княства Літоўскага. Новы этап археалагічных прац звязаны з рэалізацыяй праграмы «Замкі Беларусі».



**Кельма будаўніка Крэўскага замка.**

Раскопкі на Крэўскім замку 2012 года працягваюцца нават цяпер — у дождж і холад. Бо праектоўшчыкі з «Белрэстаўрацыі» на чале з архітэктарам Уладзімірам Сіняўскім, замоўцы даследаванняў, плануюць пачынаць працы над праектам рэканструкцыі вежы і кансервацыі муроў. Бракуе інфармацыі пра размяшчэнне ўзроўняў падлогі і скляпенняў на ярусах, пра мастацкія асаблівасці гатычных залаў, якія і маюць здабыць археолагі.

Таму самыя жаданыя знаходкі — элементы архітэктурных канструкцыяў, будаўнічыя матэрыялы. Але бываюць і неспадзяванкі.

Між камянёў, бітай цэглы і рошчыны Кейстутавай вежы была знойдзеная кельма XIV стагоддзя. Хутчэй за ўсё, падчас будаўніцтва яна выслізнула з рук муляра ва ўнутраную забутоўку муроў ды там і засталася.

Даўнія кельмы мала розняцца ад сучасных — савок і ручка. Драўляныя тронкі спрахнелі, але жалеза закансервавалася ў рошчыне — кельмай і сёння можна мураваць.

Наведнікаў раскопу здзіўляе знойдзеная там цэгла складанай формы — крыжападобная. Хтосьці бачыць у ёй стралу або чалавечую фігуру... Гэта нервюрная цэгла гатычных скляпенняў.

Паўцыркульныя скляпенні вялікай плошчы навучыліся рабіць у часы Рэнесансу. Да таго цяжкія скляпенні трымалі своеасаблівыя рэбры-нервюры. Яны выкладаліся са спецыяльнай цэглы, што была як бы замком скляпенняў.

Гатычныя крэўскія нервюры былі і ўпрыгажэннем. З аб'ёмаў скляпенняў выступалі іх дэкаратыўныя элементы ў выглядзе крыжыкаў, ствараючы непаўторную, напружаную атмасферу гатычнай залы.

Нам яшчэ трэба навучыцца аднаўляць па абломках старажытныя мастацкія вобразы ды ўзнаўляць іх пры рэканструкцыі нашых помнікаў.



**Рэдкі экзэмпляр амаль цэлай нервюрнай цэглы.**

# БАТЭ — «Ліль»



**20 лістапада на мінскім стадыёне «Дынама»** адбудзецца матч Лігі чэмпіёнаў. Наш БАТЭ прыме французскі «Ліль». Білеты будуць каштаваць ад 60 да 200 тысяч рублёў. Гэта апошні міжнародны матч на «Дынама». Ад 1 снежня стадыён будзе закрыты на рэканструкцыю.

## ФУТБОЛ

### 32 тур

**17 лістапада** адбудуцца матчы перадапошняга тура чэмпіяната краіны па футболе. Сустракаюцца: «Мінск» — «Брэст», «Славія» (Мазыр) — БАТЭ (Барысаў), «Шахцёр» (Салігорск) — «Белшына» (Бабруйск), «Гомель» — «Нёман» (Гродна), «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Дынама» (Мінск).

## ХАКЕЙ

### Прыедзе Авечкін

**18 лістапада ў рамках Кантынентальнай хакейнай лігі мінскае «Дынама»** прыме аднаклубнікаў з Масквы. За гасцей гуляе не абы-хто, а адзін з найлепшых хакеістаў свету — Аляксандр Авечкін. У Маскве матч паміж камандамі скончыўся разгромнай перамогай расейцаў — 7:1. Гульня пройдзе на «Мінск-Арэне». Пачатак а 17-й.

## БАСКЕТБОЛ

### Дзве гульні «Цмокаў»

**17 лістапада ў межах Адзінай лігі ВТБ мінскія «Цмокі»** прымуць маскоўскі ЦСКА, каманду топ-узроўню. Гульня на «Мінск-Арэне». Пачатак а 17-й. 20 лістапада ўжо ў межах Еўрачэленджа «Цмокі» згуляюць з французскім «Нансі». Пачнецца сустрэча а 19-й.

## ІМПРЭЗЫ

### Мікалай Рудкоўскі. Табу or not табу?

**17 лістапада а 15-й у кавярні «Зерне» (пр.Незалежнасці, 46)** — лекцыя Тацяны Арціновіч «Мікалай Рудкоўскі. Табу or not табу?»

### Гамбурскі рахунак Бахарэвіча

**Кнігу склалі больш за пяцьдзясят эсэ** Альгерда Бахарэвіча, прысвечаных класікам беларускай літаратуры. Тэксты, якія друкаваліся на сайце «Свабоды» і гучалі ў эфіры цягам цэлага года, — цяпер пад адной вокладкай. У прэзентацыі возьмуць удзел Альгерд Бахарэвіч, Адам Глобус, Сяргей Шупа, Віктар Жыбуль, Віктар Марціновіч, Антон Рудак. Імпрэза адбудзецца 15 лістапада а 19.00 у памяшканні мінскага Інстытута Гётэ (вул. Веры Харужай, 25/3, трэці паверх). Уваход вольны.







### Стары Ольса

**17 лістапада ў Палацы культуры ветэранаў (Купалы, 21)** — выступае гурт сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса». Пачатак а 19-й.

## КАНЦЭРТЫ

### Маланка аркестр

**14 лістапада а 19-й у Loft-cafe (П.Броўкі, 22)** — «Канцэрт дружалюбных мелодый». Прагучыць ска, клезмер, цыганскія напевы, дваровы шансон, мексіканскі твіст — па-руску, беларуску і іспанску.

### У нескладовае

**15 лістапада а 20-й у мінскім клубе «Гудвін» (пр.Незалежнасці, 19)** Раман Арлоў і праект «У нескладовае» з праграмай і відэакліпам «Будзьма Беларусамі».

### DAS FEST / MINSK 2012

**17 лістапада а 18-й у Re:public** — першы ў Беларусі фестываль нямецкамоўнай музыкі DAS FEST / MINSK 2012. Клавішныя Марціна Кілгера, аўтэнтычны Alpenopor Тобіаса Шварц-Гевалігa, ямайскія рытмы Марлона Бі і нямецкамоўнае лаціна-рэгі Крыса Косма…

### Madera Hard Blues

**17 лістапада ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — Madera Hard Blues. Пачатак а 18-й.

## ВЫСТАВЫ

### Мінскае метро ў фотаздымках

**Да 30 снежня ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава «Мінскае метро: учора, сёння, заўтра ў фотаздымках Пятра Кастрамы». На выставе прадстаўлена звыш 120 фотаздымкаў майстра, якія ілюструюць этапы будаўніцтва Мінскага метро.

### Марк Шагал

**Да 28 студзеня 2013 у Мастацкім музеі** працуе выстава »Марк Шагал: жыццё і каханне» з калекцыі Музея Ізраіля (Ерусалім). На выставе прадстаўлены кніжныя ілюстрацыі мастака, якія адлюстроўваюць шматграннасць асобы майстра.

### Вынікі сезона 2011—2012

**У Музеі гісторыі беларускага кіно (Свярдлова, 4) ад 15 да 30 лістапада** працуе выстава беларускіх мастакоў-сцэнографаў «Вынікі сезона 2011—2012». На выставе будуць паказаныя эскізы і макеты 10 аўтараў да спектакляў рэспубліканскіх і абласных тэатраў.

### Гасцёўня

**Да 24 лістапада ў Музеі сучаснага выўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава лялек Ірыны Ражко. У «Гасцёўні» сустракаюцца ўсемагчымыя персанажы — людзі, гномы, музыкі — лялькі Ірыны Ражко, выкананыя ў разнастайных тэхніках.

### 150 гадоў беларускай чыгункі

**Да 12 снежня ў Гістарычным музеі (Маркса,12)** працуе выстава, прысвечаная 150-годдзю беларускай чыгункі. Сярод экспанатаў: дакументы і фота, узоры форменнага адзення работнікаў чыгункі розных часоў, макеты паравозаў, цеплавозаў, разнастайныя прыстасаванні і апараты.

## ТЭАТРЫ

### 15 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Лялек** — «Шоўк»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»

### 16 лістапада

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгенды Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Лялек** — «Вянчанне»

### 17 лістапада

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавец»
**Оперы і балета** — «Рускія сезоны XXI стагоддзя»: Клеапатра-Іда Рубінштэйн. Шапеніяна»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

### 18 лістапада

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»
**Оперы і балета** — «Карміна Бурана». «Кармэн-сюіта»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 19 лістапада

**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»

### 20 лістапада

**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 21 лістапада

**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлярой»
**Купалаўскі** — «Зіма»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 22 лістапада

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

## КІНО

### Згуляць чужую гульню

**Ральф** (Wreck-It Ralph)
ЗША, 2012, каляровы, 120 хв.
**Рэжысёр:** Рыч Мур
**Жанр:** Прыгодніцкая анімацыя для ўсёй сям'і
**Адзнака:** 6,5 (з 10)

Ральф вось ужо трыццаць гадоў працуе разбуральнікам у відэагульні, але ўся слава дастаецца майстру Феліксу. Ральф уцякае ў чужыя гульні, каб даказаць, што здольны не толькі разбураць, але і ствараць. Але гульні вельмі змяніліся, а ў яшчэ большай ступені змяніліся і героі.

Стужка стваральніка «Футурамы» Рыча Мура — завадная і пацешная анімацыя з прадуманымі і недурнымі героямі і арыгінальным сюжэтам, што выбіваецца з агульнага шэрагу. Баявая бландзінка-нявеста з сагі пра касмічных насякомых заказаная ў карузліка-будаўніка, кароль цукеркавай відэагульні становіцца скарпіёнам, камп'ютарныя нягоднікі спавядаюцца на сеансе калектыўнай тэрапіі, а новая прынцэса абвяшчае прэзідэнцкую рэспубліку.

Сюжэт стужкі радасна глючыць і трансфармуецца. А што вы хацелі? Гэта анімацыя, дзе магчымае ўсё.

**Андрэй Расінскі**



# Калі забароняць курэнне ў рэстаранах і барах?

**У Беларусі шкодную звычку мае кожны другі мужчына і кожная дзясятая жанчына.**

Беларускія медыкі прапануюць узмацніць забарону на курэнне ў грамадскіх месцах. Па словах начальніка аддзела грамадскага здароўя Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Вольгі Бартман, у пашыраны спіс «забароненых» месцаў могуць быць уключаны рэстараны і бары. Калі медыкі змогуць пралабіраваць сваю ініцыятыву, новыя правілы могуць уступіць у сілу ўжо ў 2013—2014 гадах.

Па падобнай схеме ідуць і суседнія краіны, якія таксама далучыліся да антытытунёвай канвенцыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Якраз цяпер новы закон супраць курэння абмяркоўваецца ў Расіі.

Выгляд цыгарэтаў у Беларусі стане такім самым, як і ў Расіі — як мінімум 50% цыгарэтнай пачкі будуць займаць застрашальныя надпісы і карцінкі. На іх будуць намаляваныя рак лёгкіх, страшныя зубы, нядоношаныя дзеці...

Белстат тым часам правёў даследаванне, колькі паўналетніх беларусаў маюць гэтую шкодную звычку. Сёлета налічылася 30,5%, хоць яшчэ дзесяць гадоў таму было 41,6%.

Прычым калі сярод жанчынаў курыць кожная дзясятая, то сярод мужчынаў — кожны другі.

Найбольш курыльшчыкаў у Мінску (29,1%) і на Віцебшчыне (27,8%). А самыя здаровыя — Міншчына і Гродзеншчына (25,5% і 25,7% адпаведна).

**ЯМ**




PHOTO.BYMEDIA.NET

Выява, ухваленая Радай па ахове здароўя ЕўрАзЭС

## Бабуля і кот: гісторыя 13-гадовага сяброўства





Фатограф Міёка Іхара трынаццаць гадоў запар здымае ўласную бабулю Місу і яе ката Фукумару з рознакаляровымі вачыма. Цяпер бабулі ўжо 88 гадоў. Выдадзены альбом са здымкамі, і тая яго частка, якую выклалі ў інтэрнэт, карыстаецца вялікай папулярнасцю ў сацыяльных сетках і блогах.

**Netlore.ru**

## Расцэнкі мінскай прастытуткі: 40—70 даляраў за гадзіну

**Міліцыя актывізоўвае барацьбу.**

Мінская міліцыя распрацавала цэлы комплекс аператыўна-прафілактычных мерапрыемстваў, каб актывізаваць працу па барацьбе з прастытуцыяй.

Пад асаблівы кантроль узяты месцы, якія традыцыйна карыстаюцца ў прастытутак і іх кліентаў папулярнасцю: кавалкі цэнтральных праспектаў, выезды з горада, участкі МКАД.

З пачатку года ў гэтых месцах праведзена больш за паўсотні масіраваных адпрацовак, прычым 20 разоў рэйды рабіліся на вуліцы Прытыцкага ў раёне станцыі метро «Каменная Горка».

Толькі ў кастрычніку міліцыянты склалі больш за 300 адміністрацыйных пратаколаў за занятак прастытуцыяй. У выніку кропкі прапановы платных інтымных паслуг перасунуліся за рысу горада.

А вось тых, хто працуе на вуліцы Прытыцкага, сістэматычныя затрыманні і прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці не спыняюць. Пасля пагашэння штрафу яны зноў вяртаюцца да сваёй дзейнасці, а пакараць іх арыштам немагчыма праз працэсуальныя абмежаванні.

Агулам жа, па падліках міліцыянтаў, вулічнай прастытуцыяй у Мінску займаюцца каля 400 жанчын. Палова з іх мае ўзрост ад 30 да 35 гадоў, яшчэ траціне ад 20 да 30 гадоў.

Больш за палову з гэтай катэгорыі — іншагароднія, якія пражываюць на здымных кватэрах або прыязджаюць у сталіцу непасрэдна для занятку прастытуцыяй.

65% маюць на ўтрыманні непаўналетніх дзяцей, 78% — не замужам альбо разведзеныя. Вулічныя прастытуткі свае паслугі ацэньваюць у сярэднім у $40–70 за адну гадзіну (ніжэйшая мяжа — $10, верхняя — $90).

**БелТА**

## Сцісла

### Навукоўцы знайшлі патэнцыйна заселеную планету

Яна знаходзіцца ў сузор'і Жывапісца на адлегласці прыкладна ў 42 светлавыя гады ад Зямлі. Планету назвалі HD 40307, і яна часткова нагадвае Зямлю — знаходзіцца ў сярэдзіне «зоны жыцця» вакол свайго свяціла, мае перыяд абароту каля 200 дзён і масу, якая прыкладна ў 7 разоў перавышае масу Зямлі.

### Папа завядзе твітар

Бенедзікт XVI выказаў намер стварыць свой мікраблог у сетцы твітар. Мяркуецца, што першыя запісы з'явяцца ўжо ў канцы гэтага года. Завёўшы сабе твітар, кожны ахвотны можа дзяліцца з сябрамі кароткімі запісамі, у якіх змяшчаецца не больш за 140 сімвалаў.

### Ісламісты заклікаюць разбурыць егіпецкія піраміды

Адзін з лідараў егіпецкіх ісламістаў, прадстаўнік «Талібана» Мурган Салем аль-Гахары заклікаў разбурыць піраміды і сфінкса. «Бог загадаў Мухамеду знішчыць ідалы. Мы павінны зрабіць гэта з усімі помнікамі, якія апанавалі Егіпет. Талібы ў Афганістане зрабілі тое, што даўно павінен быў зрабіць урад: яны разбурылі статуі Буды», — заявіў ён.

### «Адыдас» пачаў рабіць валёнкі

Распрацоўваючы асенне-зімовую калекцыю абутку, дызайнеры спартыўнага брэнда выпусцілі цалкам новую мадэль — adiValenki. Па форме абутак падобны на сапраўдныя валёнкі, але пры гэтым выкананы з найноўшых сучасных матэрыялаў: экалагічна чыстай воўны, італьянскага лямцу і тэрмапаліўрэтану, якія надзейна абараняе ад слоты і халадоў. Абутак ужо прадаецца па $166.

### Да аэрапорта «Мінск-2» могуць пракласці чыгунку

Разглядаецца некалькі варыянтаў стварэння чыгуначнага злучэння сталіцы і Нацыянальнага аэрапорта Мінск. Акупнасць праекта была б большай, калі б да гэтай чыгуначнай галіны былі прывязаныя горад-спадарожнік Смалявічы і пасёлак Сокал.

**ЯМ**




**Нясвіжскі палац упершыню з часоў Радзівілаў прыняў баль. Вядучымі вечара сталі Аліна Краўцова і Марат Башараў. Разам з імі гасцей сустракалі «Міс Беларусь-2008» Вольга Хіжынкова і Разана Дэвісан — дачка славутага кампазітара Крыса дэ Бурга, уладальніца тытула «Міс свету-2003». На фота: расійская балерына Анастасія Валачкова і міністр культуры Павел Латушка.**




**Школьнікаў і студэнтаў сагналі 7 лістапада да помніка Уладзіміру Леніну. Яны падыходзілі арганізаванымі групамі на чале з куратарамі. Праўда, не ўся моладзь ведала, што адзначаюць у гэты дзень.**




**8 лістапада моладзевыя актывісты кампаніі «Гавары праўду» — «Zмена» — правялі перфоманс каля кінатэатра «Масква» на праспекце Пераможцаў. За кратамі апынуліся толькі плюшавыя цацкі.**




**Першая ракетка свету, беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка стала тварам вядомай гадзіннікавай кампаніі Citizen.**

## Анекдоты

* * *

Адзіным кандыдатам ад апазіцыі стане той, хто застанецца ў краіне.

* * *

— Чаму ты вырашыў, што КДБ усталяваў у тваёй кватэры «жучок» для праслухоўвання?

— У мяне ў пакоі з учарашняга дня стала на адну шафу больш...

* * *

Без панікі! Урадам праводзіцца тактычнае скарачэнне золатавалютных рэзерваў з мэтаю аптымізацыі іх захоўвання — чым менш рэзерваў, тым менш іх страціш.

* * *

Як добра было раней: бярэш газетку і ідзеш у прыбіральню. А цяпер — нібы ў экспедыцыю збіраешся: ноўтбук, iPad, два мабільнікі...

* * *

Як завязаць марскі вузел?

1. Згортваеш акуратненька навушнікі.
2. Кладзеш у кішэню.
3. Дастаеш — марскі вузел гатовы!

***

За рулём адчуваю сябе багіняй ... Я еду, а муж моліцца!

* * *

Жанчына прыходзіць на працу з фінгаламі пад вокам. Супрацоўнік заўважыў, пытаецца:

– Хто гэта цябе так?

– Муж!

– Муж? Я думаў ён у камандзіроўцы ...

– Ха! Ён думаў... Я была ў гэтым упэўненая!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мушэнка. Даўгінаўская воласць.** Гаспадар Н. унёс у хату кадушку ад капусты і загадаў жонцы, каб яна наварыла вады і выпарыла яе. Неўзабаве ў кадушку ўлез сын Н. і там пачаў гуляць. Гаспадыня, заварыўшы вады і не паглядзеўшы, ці няма там чаго, чабыхнула варатак у кадзь і... зварыла хлопца.

**«НН». №44. 1912.**

**Прарвацца ў NATO не ўдалося.** 20—21 лістапада ў Празе адбудзецца саміт NATO. Але ўсё выглядае так, што беларускі кіраўнік не ўбачыць ані Прагі, ані «Шкоды» (пра сваё жаданне наведаць гэтае мерапрыемства Лукашэнка паведаміў у зварoце да чэшскага пасольства). МЗС Чэхіі схіляецца да рашэння адмовіць Аляксандру Лукашэнку ва ўязной візе.

**«НН». №42. 2002.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8090. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 13.11.2012.
Замова № 5091.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12